Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 8-9. 15 лістапада 1929 году

# ВЕСТКІ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.
УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.



## Да вынікаў нарады сакратароў савгаскіх і калгаскіх ячэек.

На першую ўсебеларускую нараду сакратароў саўгаскіх і калгаскіх партячэяк зьявілася 108 сакратароў, з якіх—90 ад калгаскіх і 18—ад саўгаскіх ячэяк. Такім чынам нарадай былі абхоплены поўнасьцю на 100 проц. (за адзінычным выключэньнем) калгаскія ячэйкі і каля 25 проц.—саўгаскіх. Гэтая нарада па сваёй масавасьці, актыўнасьці і прыняцьці рашэньняў набывае выключнае важнае значэньне. Склікаючы нараду ЦК, як бачыць, ставіў сабе дзьве асноўныя задачы:

1) Праверыць і пад'ітожыць практыку работы мясцовых парторганізацый наколькі яны правільна і сваячасова перабудаваліся да выкананьня задач па сац. рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

2) Поўнасьцю арыентыраваць парторганізацыі іх кіраўніцтва і ўвагу на большае ўзмацненьне тэмпу і якасьці работы ў саўгаскім і калгаскім будаўніцтве.

Трэба сказаць, што мэта, якую ставіў сабе ЦК перад скліканьнем нарады, у значнай меры дасягнута. Больш сотні сакратароў ячэяк,—як непасрэдных парткіраўнікоў саўгасаў і калгасаў, абмяняўшыся вопытам работы, атрымалі тут большую школу і новыя веды для далейшай сваей работы.

Маецца ясная карціна дасягненьняў і недахопаў у калгаскім і саўгаскім будаўніцтве і як на практыцы ажыцьцяўляецца мясцовымі парторганізацыямі выкананьне дырэктыў ЦК.

Усебеларуская нарада сакратароў з асаблівым здавальненьнем вітала рашэньні верасьнеўскага пленуму ЦК КПБ, які ўскрыў і з усей ра-

шучасьцю асудзіў права-апартуністычную кулацкую лінію былога кіраўніцтва Наркамзему БССР і ўдарыў па ўсіх тых апартуністых, хто ня бачыў пэрспэктыў разьвіцьця калгаснага будаўніцтва ва ўмовах Беларусі, хто замест калектывізацыі браў установку на хутар, дробны пасёлак, хто не даацэньвае клясавай барацьбы ў вёсцы, хто прапаведвае „мірнае ўрастаньне кулака ў сацыялізм“ і г. д. Асноўнай задачай, якая забясьпечвае пасьпяховае правядзеньне сац. будаўніцтва, зьяўляецца не паслабляць, а ўзмацняць барацьбу з праявамі правага ўхілу і прымірэнства, і асабліва ў практычнай працы як у асобных зьвеньнях нашай партыі, так і сярод асобных камуністых. На гэтай нарадзе сакратары ячэяк з фактамі, з лічбамі ў руках яшчэ раз падцьвердзілі правільнасьць лініі партыі і поўнасьцю аправерглі права-апартуністычныя „прадсказаньні“ аб „дэградацыі сельскае гаспадаркі“ і немагчымасьці саўгасна-калгаснага будаўніцтва. За апошнія 2 гады і асабліва пасьля рашэньняў 15-га зьезду УсеКП і 12-га зьезду КПБ мы ў БССР маем масавы рух у калектыўныя гаспадаркі бядняцка-серадняцкіх слаяў вёскі. Нашы меркаваньні па 5-гадоваму пляну разьвіцьця соц. сэктару ў вёсцы аказаліся ўжо выпаўненымі ў працягу 1-га году 5-годкі. Растуць новыя буйныя ў 4—5—10 тысяч га калгасы. Узмацняюцца і аб'ядноўваюцца старыя калгасы. Рух асноўных мас сялянства пераходзіць у новую вышэйшую фазу,—у масавую сплашную калектывізацыю цэлых с.-саветаў і раёнаў. Нашай задачай зьяўляецца організацыйна ахапіць і гаспадарча замацаваць як існуючыя ўжо, так і зноў організуемыя калгасы.

Рух і цягу бядняцка-серадняцкіх мас вёскі трэба накіраваць у рэчышча сплашной масавай калектывізацыі цэлых раёнаў і сельскіх саветаў. У БССР у раёнах сплашной калектывізацыі вясною будзе прыступлена да організацыі 3-х машынна-трактарных станцый і 20 трактарных калёнаў; трэба ўжо неадкладна прыступіць да растлумачыцельнай працы і падрыхтоўкі асноўных мас сялянства да заключэньня дагавароў. Такі бурны рост калгаснага будаўніцтва, накірованыя мерапрыёмствы партыі і савецкай улады да рашучага наступленьня на кулака і выкарчоўваньня карэньняў капіталізма, сапраўджаецца нямінучым абвастрэньнем клясавай барацьбы на вёсцы. Кулак актыўна супраціўляецца організацыі калгасаў, ён ад мэтадаў агітацыі перайшоў да тэрору і калі гэтыя сродкі—агітацыі, запужваньня і тэрора не прыстанаўліваюць масавага руху ў калгасы бядняцка-серадняцкіх слаёў вёскі, дык кулак ня адрываючыся ад старых мэтадаў барацьбы прымае новую тактыку да дасягненьня сваёй мэты. Кулацтва робіцца „лойяльным“ калектывізацыі, яно (кулаччо) імкнецца пралезьці ў калгасы і ізнутры шкодзіць іх працы. Кулак часта прадае частку сваёй маёмасьці і на правох серадняка імкнецца ўступіць у калгас. І трэба сказаць, што гэты манэўр кулаку удаецца вельмі часта, дзякуючы недастатковай увазе нашых партячэяк. Асобныя-ж партыйныя ячэйкі і камуністы слаба ўсвоілі сабе новую тактыку кулака, гэтыя ячэйкі і камуністы міралюбна адносяцца да „абядneўшых“ кулакоў, яны (ячэйкі) недаацэньваюць клясавай барацьбы ў вёсцы і зусім упускаюць з віду, што з уваходжаньнем кулака ў калгасы, клясавая барацьба там ня толькі прыціхае, а наадварот—яшчэ ўзмацняецца, але толькі ў новых формах.

Трэба вызваліць партыю ад такіх асобных „камуністых“, якія сапраціўляюцца калектывізацыі, ці агітуюць за ўваходжаньне кулака ў калгас, або самі не жадаюць калектывізавацца. Да тых-жа асобных партячэяк, у якіх, у сілу дробна-буржуазнага атачэньня, прытупілася клясавае чуцьцё, павінны неадкладна практычнай дапамогаю і ўзмацненьнем кіраўніцтва прысьці РК і АК і падняць іх пралетарскую пільнасьць.

Пры організацыі новых калгасаў павінна быць зьвернута сугубая ўвага на падбор соц. склада. Ні адзін кулак, ні пад якім прадлогам і манеўрам не павінен пралезьці ў калгасы. У складзе ўжо організаваных калгасаў мы маем каля 3% кулацтва, трэба неадкладна, згодна дырэктыў ЦК, прыступіць да ачысткі калгасаў ад пралезжых туды кулакоў, організуючы навакол гэтага шырокія бядняцка-серадняцкія масы калгасьнікаў. Трэба зьвярнуць увагу ячэяк і райкомаў на недапушчальна-слабую работу па ўцягваньню батракоў у калгасы. Усяго па БССР батракоў маецца каля 100.000 чал., а ў каляктыўных гаспадарках — нязначная праслойка. Батракі ад найма па кулацкіх гаспадарках у працягу бліжэйшых гадоў поўнасьцю павінны перайсьці ў калгасы і саўгасы.

Нарада ў дастатковай ступені выявіла і поўнасьцю падцьвердзіла ацэнку ЦК, што большасьць саўгаскіх і калгаскіх партячэяк яшчэ і да гэтага часу, ня гледзячы на шэраг ясных і канкрэтных дырэктыў ЦК, не сканцэнтравалі сваю ўвагу і кіраўніцтва на пытаньнях гаспадарчага ўзмацненьня саўгасаў-калгасаў і росту партыі за лік с.-гаспадарчых рабочых і беднякоў калгасьнікаў, а РК і АК слаба дапамагаюць у практычнай рабоце партячэяк. Вось таму ў саўгаскім і калгаскім будаўніцтве маюцца вялікія недахопы, якія пры дастатковай увазе ячэяк і РК бясспрэчна ў значнай сваёй частцы былі-б ужо зьнішчаны.

Аднэй з галоўнейшых цэнтральных задач ячэяк зьяўляецца—работа па гаспадарчаму ўзмацненьню калгасаў і саўгасаў. У гэты бок павінна быць павернута парткіраўніцтва ячэяк (саўгасаў і калгасаў) і зроблен рашучы пералом, выходзячы з гэтай задачы трэба і перабудаваць мэтады работы саўгаскіх і калгаскіх ячэяк.

Асноўным паказальнікам правільнага разьвіцьця калгасаў, які гарантуе іх стойкасьць ад магчымых рас-падаў, зьяўляецца ацэнка таго, наколькі калгасы праводзяць у сябе работу па абагульненьню ўсіх сродкаў вытворчасьці і па стварэньню недзялімых капіталаў. Трэба самым рашучым чынам заявіць неблагапалучча на гэтым важнейшым вучастку работы і прыкаваць увагу ўсіх організацый. Партячэйкі павінны цьвёрда ўясьніць сабе, што калі ў калгасе поўнасьцю абагульнены сродкі вытворчасьці і растуць недзялімыя капіталы, то такі калгас здаровы, стаіць на правільным шляху свайго разьвіцьця, г. зн. зьнішчаецца магчымасьць эксплёатацыі калгаскай беднаты, паралізуецца стымул да выхаду з калгасу.

Ячэйкі павінны паставіць сабе задачай — у бліжэйшы час дабіцца 100 проц. абагульненьня ўсіх сродкаў вытворчасьці. На гэту справу трэба мабілізаваць увагу ўсёй беднаты і серадмякоў, такая работа таксама дае магчымасьць хутчэй выявіць пралезжых у калгасы кулакоў і выгнаць іх адтуль.

Пры правядзеньні работыпа поўнаму абагульненьню сродкаў вытворчасьці трэба зьвярнуць увагу на абагульненьне ўсёй рабочай, малочна-прадукцыйнай і дробнай жывёлы (конь, карова, авечка, сьвіньня, цялята і г. д.), бо гэтая жывёла, знаходзячыся ў індывідуальным карыстаньні, служыць крыніцаю асабовага абагачэньня і ў канечным выніку можа прывесьці да акулачваньня асобных членаў калгасаў.

Калі ў нас маюцца хаця некаторыя дасягненьні ў справе абагульненьня сродкаў вытворчасьці, дык з рук вон дрэнна пастаўлена работа па павялічэньню недзялімых капіталаў калгасаў. Усяго ў калгасах БССР недзялімыя капіталы на I/VII—29 г. складаюць каля 5 з палаовай млн. руб., з якіх 90 проц. складае дзяржмаемасьць, перададаная калгасам і толькі 10 проц.—сродкі, адлічаемыя ад прыбыткаў калгасаў. Ёсьць цэлы шэраг выпадкаў, калі калгасы, маючы ня дрэнны прыбытак, усё-ж адказаліся адлічыць частку такіх у недзялімы капітал,

ці аддзяляюць крайне мізэрную суму. Такія прыклады і факты павінны сыгналізаваць небясьпеку нездаровага разьвіцьця часткі калгасаў і прыкаваць увагу як парт. арганізацый, так і бядняцка-серадняцкіх мас калгасьнікаў.

Мярылам ацэнкі работы партячэяк і правільнага разьвіцьця калгасаў павінна быць—весткі наколькі ў гэтых калгасах поўнасьцю праводзіцца абагульненьне сродкаў вытворчасьці і павялічэньне недзялімых капіталаў.

Якасныя паказьнікі ў рабоце калгасаў не павінны адставаць, як гэта адчуваецца зараз, ад колькаснага размаху калгаснага руху. Організацыйны і вытворчы плян калгасу—ёсьць аснова яго работы, таму не павінна быць ніводнага калгасу без свайго організацыйнага вытворчага пляну. Гэтыя пляны павінны складацца на аснове спэцыялізацыі калгасаў з вызначаным аснаўным напрамкам у разьвіцьці яго гаспадаркі і ў залежнасьці ад натуральных умоў, прыкладна: паляводчаскай, малочна-жывёлаводнай, садова-гароднай і г. д. Асаблівую ўвагу пры спэцыялізацыі калгасаў трэба зьвярнуць на разьвіцьцё і падняцьце жывёлаводзтва, малочна-прадукцыйнага быдла, на пашырэньне зернавых і тэхнічных культур, чыстасортнага насеньня і г. д. Організацыя і аплата працы ў калгасах мае важнейшае значэньне, а між тым гэтаму пытаньню амаль не зварочваецца ніякай увагі. Формы аплаты працы існуюць самыя разнастайныя і трэба сказаць някудышныя. Не выпадкова, калі аплата працы ўстанаўліваецца празьмерна высокая і несаразьмерна сапраўдным гаспадарчым магчымасьцям калгасу, што прыводзіць да праяданьня дзяржаўных сродкаў, індывідуальнаму абагачэньню асобных калгасьнікаў і поўнаму падрыву гаспадарчага разьвіцьця калгасу і нават да яго распаду ў выніку дэфіцытнасьці. Формы аплаты працы ў калгасах павінны быць у масавым парадку вывучаны і лепшыя з іх узоры, як аснова, прыменяны ў астатніх калгасах.

Трэба рашучай аплату працы ў калгасах пераводзіць на формы зьдзельшчыны, гэта таксама ў сваю чаргу будзе стымуляваць падняцьце вытворчасьці працы.

Аплата жаночай працы ў калгасах значна адстае ад мужское, неабходна ячэйкам дабіцца такой ураўнавагі, каб жанчыны за аднолькавую працу з мужчынамі атрымлівалі б адзінакавую плату. У мэтах лепшага падняцьця вытворчасьці працы і якасьці работы трэба шырока газгарнуць і правільна паставіць у калгасах работу вытворчых нарад, якія павінны абхапіць усе галіны работы калгаснай гаспадаркі (паляводзтва, жывёлаводзтва, кармавое пытаньне, падняцьце ўраджайнасьці, аграмінімум, распарадак працы, культурна бытавыя пытаньні і г. д.). Гэтыя вытворчыя нарады павінны працаваць пры праўленьнях калгасу пад іх кіраўніцтвам, пры дапамозе і ўплыве партячэяк і ні ў якім разе не павінны замяняць сабою функцыі праўленьня і саветаў калгасаў.

Партячэйкам неабходна вылучыць лепшых камуністых, як спэцыяльных організатараў па асобных галінах работы саўгаскай і калгаскай гаспадаркі (паляводчаскай, жывёлагадоўгай, садова-гароднай, саматужна-прамысловай і г. д.). На абавязку гэтых організатараў павінна ляжаць задача па мабілізацыі ўвагі рабочых саўгасаў і сялян калгасьнікаў на лепшую пастаноўку работы ў гэтай спэцыяльнай галіне і сваячасова сыгналізаваць ячэйцы аб маючыхся там промахах і недахопах. Гэта форма работы ў першую чаргу павінна распаўсюджвацца ў буйных калгасах і саўгасах. Партячэйкі, савецкія і грамадзкія організацыі вёскі павінны ўзмацніць растлумачальную працу сярод асноўных мас сялянства, і асабліва асобных іх груп, калі гэтымі групамі сялян уваходжаньне ў калгас расцэньваецца як поўнае іх узяцце там на дзяржаўнае ўтрыманьне, а

таму перад уваходжаньнем у калгас імі прадаецца ўся альбо значная частка іх маёмасьці. Трэба растлумачыць і даказаць шкоднасьць такога разуменьня пытаньня і прыняць меры да максымальнай мабілізацыі сродкаў саміх-жа бядняцка-серадняцкіх мас на справу разьвіцьця калгасаў і іх індустрыялізацыі.

У нас вельмі шмат выпадкаў, калі атрыманы калгасамі ад дзяржавы крэдыт скарыстоўваецца не па простаму прызначэньню. Трэба абвясьціць барацьбу з такімі зьявішчамі. Дзяржкрэдыт павінен з максымальнай эфэктыўнасьцю цалкам укладвацца ў разьвіцьцё калгаснай гаспадаркі і не аднае капейкі яго не павінна папасьці на індывідуальнае скарыстаньне, ці асабовае абагачэньне, што, на жаль, яшчэ часта сустракаецца.

Апошняе масавае абсьледаваньне калгасаў зазначыла, і гэта пацьвердзіла яшчэ раз нарада сакратароў ячэяк, што сярод калгасаў маецца цэлы шэраг „лжэ-калгасаў“ у якія пералезьлі кулакі, манахі, быўшыя служачыя паліцыі і інш. антысавецкія элемэнты, прыкрываючыяся формай калгасу. Гэтыя кулакі і „быўшыя людзі“ калі-ні-калі таксама стаяць на чале кіраўніцтва асобных бядняцка-серадняцкіх калгасаў, чым шкодзяць справе калектывізацыі,—не выпаўняюцца ўзятыя на сябе перад дзяржавай абавязкі па хлебанарыхтоўцы, каапэрацыйнай рэалізацыі таварных лішкаў і г. д.

Кулацкія кіраўнікі і ўсе кулакі, якія пралезьлі ў калгасы, павінны быць неадкладна вычышчаны, „лжэ-калгасы“ ў тэрміновым парадку—ліквідаваны, і на іх месца трэба стварыць новыя, здаровыя бядняцка-серадняцкія калгасы. Пасьпешнае выкананьне задач па сац. перабудове с-гаспадаркі, на аснове яе калектывізацыі, выкарчоўваньня карэньняў апартунізму ў вёсцы і далейшае рашучае наступленьне на кулака, у значнай меры залежыць ад таго, наколькі правільна пастаўлена работа месц па разгортваньню сац. спаборніцтва. Трэба сказаць, што на гэтым важнейшым вучастку работы нашы партячэйкі прарабілі вельмі мала. Сац. спаборніцтва ў калгасах і саўгасах яшчэ ня стала мэтадам сапраўднай работы, а толькі кранула ў параднай форме. Ячэйкі павінны шырокі рух асноўных бядняцка-серадняцкіх мас сялянства злучыць з масавым разгортваньнем сац. спаборніцтва. Рабочым арганізацыям праз сыстэму шэфскіх таварыстваў трэба яшчэ болей пашырыць сваю дапамогу і кіраўніцтва ў калгасным будаўніцтве, і разгортваньні сац. спаборніцтва ў калгасе, саўгасе, вёсцы. Рабочыя ф-к і заводаў павінны паскорыць прыняцьце шэфства над буйнымі калгасамі і саўгасамі.

Праблема кадраў зьяўляецца аднэй з асноўных задач. Дырэктывы ЦК па гэтаму пытаньню павінны фарсіраваным тэмпам выконвацца ў трох напрамках:

а) падрыхтоўка спэцыялістых с-гаспадаркі ў навуковых установах,

б) перападрыхтоўка кіраўнікоў калгасаў на акруговых і раённых курсах,

в) непасрэдная падрыхтоўка і выхаваньне бядняцкіх кадраў у самых калгасах, саўгасах і найбольш рашучае высоўваньне беднаты, батракоў на кіруючую работу ў калгасах.

Неабходна зьвярнуць сугуба-важную ўвагу ячэяк на паглыбленьне інтэрнацыянальнага выхаваньня і падняцьце культурна-палітычнага ўзроўню, як рабочых саўгасаў, так і сялян-калгасьнікаў і асабліва жанчын і батракоў. Тут павінны быць найбольш энэргічна выкарыстаны ўсе маючыяся формы і мэтады работы. Трэба завастрыць пытаньне па галоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў, саўгаскіх рабочых. Падцягнуць на павінную вышыню работу сярод жанчын калгасьніц, шляхам лепшай арганізацыі работы жандэлегацкіх інстытутаў, пабудова сталовак, ясьляў, дзіцячых сталовак і г. д. Рост новых партячэяк у калгасах, як і раней застаецца нездавальняючым.

Усяго на 1713 калгасаў на 1 кастрычніка г. г. мы маем толькі 90 калгаскіх партячэяк. Гэта з асаблівай вастратой ставіць ва ўсю шырыню задачу як організацыі новых ячэяк, так і пасіленьне ўвагі да пытаньняў вярбоўкі ў партыю с.-г. рабочых, батракоў і беднякоў-калгасьнікаў. Практычная дапамога саўгаскім і калгаскім ячэйкам з боку АК і РК вельмі слабая. З 108 сакратароў, якія прысутнічалі на нарадзе, паказалі, што АК і РК на працягу 1929 г. на сваіх пасяджэньнях заслухалі даклады толькі 41 сакратара яч., а 67 сакратароў у г. г. зусім не рабілі справаздачу аб рабоце ячэйкі.

РК і АК павінны зрабіць рашучы паварот да пытаньняў практычнай дапамогі ячэйкам і іх кіраўніцтву.

Партыйную работу і кіраўніцтва ў саўгасах і калгасах трэба падняць на вышэйшую ступень, вясковым парторганізацыям, а асабліва саўгаскім і калгаскім ячэйкам трэба рашуча павярнуцца тварам да свайго саўгаса і калгаса. Праяўленьне правага ўхілу на практыцы і прымірэнцтва сярод асобных ячэяк і камуністаў, якія не даацэньваюць клясавай барацьбы ў вёсцы, важнасьці і значаньня організацыі беднаты, рашучага наступленьня на кулака і г. д. павінна атрымаць жорсткі адпор з боку ўсёй партыі. З неаслабнай-жа рашучасьцю павінна весьціся барацьба і з праявамі нацыянал-дэмакратызму на даным этапе і з усякага роду шовінізмам. Чыстата і строгасьць у правядзеньні Ленінскай лініі, бязьлітаснасьць у барацьбе з усякага роду ўхіламі, і асабліва зараз з правым і нац.-дэмакратызмам,—ёсьць залог посьпеху нашага сац. будаўніцтва.

Камуністы вёскі, усе як адзін, павінны ўзяцца за партвучобу, ніводнага камуніста па-за вучобай. Атрымаць бальшавіцкую закалку, узброіцца ленінскімі ведамі, рашуча весьці барацьбу за правядзеньне гэнэральнай лініі партыі—асноўная задача камуніста.

Прынятыя на нарадзе сакратароў рашэньні павінны стаць дастаяньнем кожнага камуніста вёскі. Трэба неадкладна гэтыя рашэньні прытвараць у практычнай рабоце ячэяк. На выкананьне рашэньняў неабходна мабілізаваць увагу ўсіх калгасьнікаў і рабочых саўгасаў. Акругкомы і Райкомы павінны бліжэй падыйсьці да практычнага кіраўніцтва ячэйкамі. Першая Ўсебеларуская нарада сакратароў саўгаскіх і калгаскіх ячэяк павінна зрабіць рашучы пералом да падняцьця на вышэйшую ступень партыйнай і гаспадарчай работы ў калгасах і саўгасах.

**М. Манжаалей.**

# Да пастаноўкі партработы на прапрыёмствах у сувязі з пераходам на непрарыўку.

Пастанова партыі і ўлады аб пераходзе на непрарыўку мае вялікае палітычнае значэньне. Гэта пастанова ў першую чаргу ўносіць тыя дапаўніцельныя элемэнты к пасіленьню тэмпа сацыялістычнага будаўніцтва, якія ў канечным выніку павінны, як і ўсе мерапрыемствы, прывесьці да ажыцьцяўленьня пяцігодкі раней вызначаных тэрмінаў.

І задачай сеньнешняга дню парторганізацыі зьяўляецца ў мінімальны тэрмін забясьпечыць выкананьне гэтага найважнейшага рашэньня партыі. Але работа па ажыцьцяўленьню даннай дырэктывы на мясцох ідзе вельмі слабым тэмпам. У большасьці выпадкаў у гэтай рабоце праяўляецца нерашучасьць, нягнуткасьць і адсутнічаньне на мясцох неабходных падрыхтоўчых мерапрыемстваў для пераходу. Да ўсяго гэтага патрэбна дадаць і тое, што даўленьне з боку пралетарскіх мас, за паскарэньне к пераходу на непрарыўку, зьяўляецца крайне

слабым. Але палітычны сэнс гэтага рашэньня заключаецца ня толькі ў тым, што пасіліць тэмп сацыялістычнага будаўніцтва, а і ў тым, каб падняць яшчэ на большую ступень самадзейнасьць, ініцыятыву, палітычную актыўнасьць пралетарскіх мас і ўсю якасьць нашай работы. Вось чаму ні ў якім выпадку нельга дапускаць, якую-бы то ні было паважнасьць, якая прыкмячаецца з правядзеньнем у жыцьцё гэтага рашэньня.

**Якія-ж новыя абставіны выцякаюць у нашай рабоце** на прадпрыемствах, у зьвязку з пераходам на непрарыўку.

Зусім зразумела, што ўвядзеньне непрарыўкі, як фактара вытворчага парадку, ды к таму-ж і галоўнага, павінна бязумоўна каранным чынам закрануць усе бакі жыцьця ня толькі ўнутры прадпрыемства, але і ўне яго. Ці будзе звычайным тое зьявішча, што прадпрыемствы будуць працаваць непрарыўна кожную дзесяцідзёўку, кожны месяц, у адзнаку ад таго, што на сёмы дзень, як гэта было раней у шэрагу прадпрыемстваў, замірала ўсё вытворчае жыцьцё. Вось гэты непрарыўны вытворчы працэс і выклікае шэраг новых зьявішч ва ўсім вытворчым укладзе прадпрыемстваў.

Возьмем такое пытаньне, як адпачынак рабочых. Гэта нязвычайны да гэтага часу адпачынак на пяты дзень уносіць зьмены і ў бытавым жыцьці рабочых. Гэтае-ж мерапрыёмства на вытворчасьці выклікае прыём новых кадраў рабочых, уносіць нешта іншае ў растаноўку рабочай сілы і выклікае шэраг другіх зьявішч.

Ці можна пры гэтых новых зьменах, якія будуць адбывацца на грунце вытворчых працэсаў прадпрыёмства, заставацца пры старых формах, мэтадах работы. Бязумоўна не. Гэта-б азначала аказацца ў поўнай працілегласьці да таго новага вытворчага ўкладу, да тых працэсаў на прадпрыёмстве, якія выцякаюць і высоўваюцца жыцьцём і ўвядзеньнем непрарыўкі. Вось таму зьяўляецца простая патрэба пераглядзець існуючыя формы і мэтады работы. Пры гэтым трэба выходзіць з вучоту двух абставін. Першае — гэта прыстасаваць абслугоўваньне, пастаноўку работы да тых новых разнавідных фактараў, якія выкліканы ўвядзеньнем непрарыўкі. Падругое, каб формы, мэтады работы, растаноўка партыйных сіл па сваёй якасьці поўнасьцю адпавядала тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва.

**Яшчэ раз аб арганізацыйнай структуры** партыйна-грамадзкіх арганізацый на прадпрыёмствах.

Гэта пытаньне ў зьвязку з пераходам на непрарыўку павінна быць канчаткова вырашана. З арганізацыйнай структурай партыйна-грамадзкіх арганізацый на прадпрыёмствах у нас паўнейшая стракатасьць, дзякуючы каторай цэх яшчэ да гэтага часу не зьявіўся цэнтрам культурна-масавай работы на прадпрыёмстве.

На буйных прадпрыёмствах, дзе маюцца цэхі, у зьвязку з новым папаўненьнем рабочых, павінна быць прыкладна наступная арганізацыйная структура.

*Па лініі партыйнай:* Бюро калялктыву, цэх. ці зьменныя парт. ячэйкі, зьвенпартарганізатар.

*Па лініі прафсаюзнай:* Па лініі агульнафабрычнага камітэту, цэх. прафбюро, прафупаўнаважаны ці прадстаўнік у аддзяленьні, у групе рабочых.

*Па лініі вытворчых нарад* — па лініі агульна-завадзкіх П/к. цэхавыя вытворчыя камісіі і вытворчыя нарады.

*Па лініі Камсамолу* — Бюро калектыву, цэх. ячэйкі, зьвенкамсарганізатары.

*Па лініі дабрахвотных арганізацый* — Агульна-завадзкі камітэт, цэх. ячэйкі.

Гэта павінна прывесьці да таго, што, сканцэнтраваўшы нашу работу ў цэху, атрымаем рост новага партыйнага і беспартыйнага актыву.

Гэтая акалічнасьць павінна ў зьвязку з адзінаначальлем у прамысловасьці вырашыць канчаткова пы-

таньне аб правох цэхавай адміністрацыі. На гэтай-жа аснове з усёй рашучасьцю патрэбна будзе вырашыць пытаньне аб выращчваньні і ўмацаваньні кадраў цэхавага актыву. Да гэтага часу гэтаму важнейшаму вучастку не ўдзялялася дастатковай увагі. Патрэбна будзе разгарнуць у зімовы пэрыяд сетку курсаў цэхавага актыву на найбольш буйных прадпрыёмствах.

**Як арганізаваць работу на прадпрыёмствах** у зьвязку з пераходам на непрарыўку. У гэту частку вапроса патрэбна ўключыць, што неабходна палажыць у аснову пяціднёўку ці дзесяціднёўку (дэкаду), па першае, і падругое, якія формы і які канкрэтны зьмест павінен быць унесен у скарыстаньні часу. Зусім павінна быць бясспрэчным, што пры плянавых наметках пастаноўкі работы, патрэбна выходзіць з дзесяціднёўкі і трыццацідзеннага месяцу па лічбах, а не па назвах дню. Разьмеркаваньне часу павінна быць увязана з агульнай нагрузкай дэкады ўсякага роду работ вышэйстаячых партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый. Мне думаецца, што дзесяціднёўку на прадпрыёмстве скарыстаць патрэбна наступным чынам:

Першы дзень—Партыйны дзень.

Другі дзень—Прафдзень (ці дзень масавай работы).

Трэці дзень — Дзень культурнага адпачынку.

Чацьверты дзень—Дзень вучобы.

Пяты дзень — Дзень культурнага адпачынку.

Шосты дзень—Дзень вучобы.

Сёмы дзень — Дзень грамадзкіх арганізацый і дзень (чарадуецца ў месяцы) заўкомскіх канфэрэнцый, сходаў.

Восьмы дзень—Дзень вучобы.

Дзевяты дзень — Дзень культуртурнага адпачынку.

Дзесяты дзень—Дзень Камсамолу.

Вось прымерная загрузка формамі і назвамі работы дзесяціднёўкі.

Шмат у нас да гэтага часу было ўсілякіх сходак, паседжаньняў, бяз якіх-бы та ні было арганізацый. Гэта небясьпека можа быць і цяпер, калі строга ня будзем прытрымлівацца азначаных дзён. Але з такога прымернага разьмеркаваньня відаць, што ў нас будзе значнае скарачэньне паседжаньняў. Гэта скарачэньне часу на паседжаньні, павінна быць у першую чаргу скарыстана на якасьць нашай работы, на якасьць падрыхтоўкі. Толькі тады, калі будзе дасканалая падрыхтоўка і якасьць ва ўсёй рабоце, мы даб'емся, што кожная з гэтых форм стане неат'емлімай часткаю ў жыцьці і быту кожнага камуніста, кожнага рабочага.

### Пытаньне аб прафдню.

Гэтага дню да гэтага часу ўстаноўлена ня было. Сходы праходзілі крайне нерэгулярна, а калі праходзілі, дык у час розных сходаў па другой арганізацыі. Удзельнічаць пагалоўна ўсе сябры саюзу незаўсёды па гэтаму маглі. Што-ж рабіць у гэты дзень. У гэты дзень можна і патрэбна абгаворваць, падводзіць вопыт, правяраць выкананьне важнейшых рашэньняў вышэйстаячых прафсаюзных арганізацый, практыку работы мясцовых прафсаюзных органаў, дыскусіраваць паасобныя навіны ў прафсаюзным жыцьці, якія высоўваюцца членскай масай, абгаварваць паасобныя мерапрыемствы партыі і ўлады і г. д. У гэты дзень, як і заўсёды, павінна быць прыцягнута і ўдзельнічаць уся партыйная арганізацыя, адказныя кіруючыя працаўнікі.

### Пытаньне для культурнага адпачынку.

Намечаныя дні для культурнага адпачынку вядома не азначаюць, што ў другі час уся культурная работа заміраe. Наадварот, яна павінна быць ва многа раз пасілена, па формах і мэтадах абагачана і накіравана да максімальнага ахопу па сваёй разнастайнасьці абслугоўваньня рабочых. Але гэтыя 3 дні ў дэкадзе павінны быць асобнымі днямі, у якія рабочы павінен атрымаць максімальнае і лепшае з таго,

што мы можам даць. Калектыўнае набыцьцё пастаноўкі ў тэатры, добра арганізаваная навуковая лекцыя (з дыапазытывамі, з кіно, наглядным дапаможнікамі), культурная чашка чаю, добра падрыхтаваная драмгуртком пастаноўка, спортвыступленьне, экскурсія і г. д. Гэтыя тры дні так павінны быць прывіты ў быт і ўвесь уклад жыцьця рабочага, каб яны зьявіліся ў быту неат'емлімай яго часткаю. Так патрэбна загрузіць у аснаўным тыя формы, якія высоўваюцца да 10-цідзнёўкі.

Нельга абыйсьці міма таго, што ў зьвязку з адпачынкам рабочых на пяты дзень—будзе вялікі рух у рабочай сіле. Тут стаіць такое пытаньне, як забясьпечыць партыйны уплыў у кожным цэху, у кожнай групе рабочых, бо можа здарыцца, што тая ці іншая зьменная група рабочых акажацца без камуністых, якія пойдуць на адпачынак. Тут павінна быць праведзена вялікая работа па растаноўцы партыйных сіл так, каб забясьпечыць парт. уплывам кожную зьмену, кожную групу рабочых. Гэта ўлічыць бязумоўна неабходна. Работа партарганізацыі ў аспэкце гэтых новых момантаў павінна выдзяляцца глыбокай якасьцю. Першае, што патрабуецца зрабіць — гэта дасканала прапрацаваць плян. Плян павінен быць настолькі канкрэтным, каб вызначыць каму, што і ў якія тэрміны зрабіць, з дасягненьнем такіх-та якасных паказальнікаў.

Ёсьць яўная неабходнасьць калі ўсю работу патрэбна будзе паставіць па сваёй форме на прынцып сацыялістычнага спаборніцтва. Чаму не паставіць справу такім чынам, каб заключыць узаемныя ўмовы аб сац. спаборніцтве паміж цэх. ячэйкамі, паміж парт. ячэйкамі прадпрыёмстваў, паміж камсамольскімі ячэйкамі, паміж прафсаюзнымі арганізацыямі і другімі грамадзкімі арганізацыямі. Гэта ня толькі магчыма, але і неабходна. Да гэтага часу гэтая форма не знаходзіла прымяненьня ў рабоце парт. ячэек. Скажам, паміж ячэйкамі магчыма заключыць дагавор на якасьць масавай работы, на лепшую пастаноўку работы па вярбоўцы ў партыю, па правядзеньню беларусізацыі і г. д. У гэтых дагаворах узяць за аснову выкананьне асноўных рашэньняў партыі з абязацельствам у мінімальны тэрмін дасягнуць лепшых паказацеляў. Пры гэтым наперш за ўсё і раней за ўсё ва ўсёй гэтай рабоце павінна быць выражана якасьць і яшчэ раз якасьць. Такая пастаноўка па форме работы павінна прывесьці да большай адказнасьці кожнага паасобку камуніста і ячэйкі ў цэлым. Гэта-ж выклікае некаторую большую адказнасьць, увагу і клопат аб ячэйцы з боку рабочых за выкананьне ёю ўзятых абавязкаў. Перадавыя рабочыя ў першаю чаргу прыдуць на дапамогу сваёй партыі, сваёй ячэйцы ў выкананьні рашэньняў партыі.

Яшчэ адна заўвага. Пытаньне аб падрыхтоўцы к пераходу на непрарыўку. Работа ў гэтым напрамку павінна быць шырока разгорнута. І ў першаю чаргу па падрыхтоўцы грамадзкай думкі. Толькі ад таго, наколькі глыбока будзе добра прапрацована папярэдне гэта пытаньне і як будуць прадугледжаны ўсе бакі жыцьця на прадпрыёмстве, будзе залежаць посьпех пераходу і паляпшэньне якасьці нашай работы.

**Конюхаў.**

---

# Зьнішчыць недахопы па коопэраваньню батрацтва і беднаты спажывецкай коопэрацыяй.

Па вестках Белкоопсаюзу на 1-е ліпеня г. г. сыстэмай спажыўкоопэрацыі коопэравана—бядняцкіх гаспадарак 71% і серадняцкіх 68%. Белкоопсаюз на 1928-29 г. намячаў кантрольную лічбу па коопэраваньню беднаты 50.000 гаспадарак і поўнасьцю яе выканаў, як быццам-



бы з фармальнага боку справа абстаіць зусім добра. Намечаная кантрольная лічба выканана, тэмп коопэраваньня беднаты ідзе ўперадзе тэмпу коопэраваньня серадняцкіх мас вёскі. Але гэта здаецца толькі з фармальнага боку, а па існасьці справа абстаіць ня зусім добра і сакратарыят ЦК КП(б)Б сваімі пастановамі ад 30/IX-29 г. прызнаў тэмп коопэраваньня і абслугоўваньня беднаты, а таксама аграмаджанага сэктару с-гаспадаркі недастатковым, адначасова адзначыў наліччa цэлага шэрагу выпадкаў скрыўленьня клясавай лініі ў пытаньнях коопэраваньня беднаты, батракоў і няправільнага скарыстаньня фондаў КБ.

Трэба сказаць, што большасьць сельпартячэяк, а таксама і частка РК партыі, вельмі мала зварочвалі ўвагі пытаньням коопэраваньня беднаты і батрацтва, яны не сачылі за сваечасовым скарыстаньнем бедняцкіх фондаў, не прынялі ўсіх неабходных мерапрыемстваў да лепшай організацыі беднаты ўнутры спажывецкіх таварыстваў. У большасьці спажывецкія т-вы не аформлены і не працуюць групы беднаты, таму мы маем цэлы шэраг вялікіх недахопаў, як у пытаньнях коопэраваньня, так і правядзеньні клясавай лініі нізавой сеткі спажывецкай коопэрацыі.

Кантрольны гадавы плян Белкоопсаюзу па коопэраваньню беднаты бясспрэчна ў пачатку году быў складзены значна праўменшаны і не на падставе сапраўднасьці. Ужо 1-га красавіка г. ё. у палове опэрацыйнага году было відаць, што гадавое заданьне па коопэраваньню беднаты выканана на 85—90%. Гэта павінна было-б сыгналізаваць Белкоопсаюзу аб нерэальнасьці яго пляну; трэба было тэрмінова на хаду перастроіцца з ахватам 100% коопэраваньня беднаты, што пры сваечасовым прыняцьці адпаведных мер бязумоўна магчыма выканаць. Белкоопсаюз усяго гэтага ня ўлічыў, неабходнай арыентыроўкі і зарадкі па сваёй пэрыфэрыі ня даў, у пытаньнях тэмпу коопэраваньньня беднаты аказаўся не ў кіраўніцтве, а ў хвасьце, таму і дырэктыва аб 100% коопэраваньні беднаты да 1/X-29 г. ня выканана.

Партыйныя-ж вясковыя організацыі ў выніку слабасьці парткіраўніцтва ў справе коопэраваньня аказаліся не на вышыні становішча і ў сваёй практычнай рабоце не змаглі сваечасова паказаць на нерэальнасьць складзенага БКС пляну па коопэраваньню беднаты і батрацтва.

Якое-ж становішча з коопэраваньнем беднаты, калгасьнікаў і коопэрацыйным абслугоўваньнем абагуленага сэктару с-гаспадаркі? На гэтае пытаньне Белкоопсаюзаўскія справаздачныя матар'ялы (у ЦК КПБ) зусім не адказваюць. Як відаць, Белкоопсаюз у гэтых адносінах працуе і кіруе па „старынцы“, бачыце, ён забыў ці ўпусьціў з віду такую „дробязь“—як шырокае разгортваньне масавай калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі. Можа быць Белкоопсаюз пасьля паказаньня ЦК КПБ і прыпомніць важнасьць гэтых пытаньняў.

Ня выкананы таксама неаднаразовыя дырэктывы ЦК аб першачарговасьці коопэраваньня жанчын бяднячак самастойных гаспадарак. Тут сельячэйкі зусім забылі важнасьць гэтага пытаньня, а Белкоопсаюз больш нічога ня мог адказаць, як: „Данныя абсьледаваньня не дазваляюць зрабіць выніку аб коопэраваньні гаспадарак, на чале якіх стаяць жанчыны“.

Пытаньне, хто-ж павінен кіраваць, папярэдне праглядаць пляны, схэмы абсьледаваньня, калі ня фракцыя ці асноўныя работнікі Белкоопсаюзу? Хіба вінаваты „данныя абсьледаваньня“? Не! Вінавата кіраўніцтва ў асобных промахах і недаглядах.

Цяпер паглядзімо як-жа абстаіць справа з коопэраваньнем батрацтва, нашай пралетарскай праслойкай у вёсцы, якая павінна аказваць свой уплыў на работу спажыўкоопэрацыі. Тут мы маем зусім нездавальняючы тэмп і поўную недаацэнку

ролі і значаньня батрацтва—як з боку ячэяк, так і фракцый Белкопсаюзу.

Вось факты па дадзеным Белкопсаюзу выбарачнага абсьледваньня на 31 патрэб. т-ва з розных акруг БССР.

У розных раёнах гэтых спажывецкіх т-ваў маецца 1559 батракоў, з якіх 917 членаў саюзу; коопэравана ў спажывецкую коопэрацыю ўсяго толькі 351 ч. ці 22,7%. Гэта-ж—непрасьцімыя недахопы і скрыўленьня клясавай лініі, калі 78% батрацтва тут не коопэравана, а астатак фонду на 1 ліпеня г. г. у гэтых спажывецкіх т-вах раўняецца 5.517 руб., не гаворачы ўжо аб тым, што частркова фонд коопэраваньня скарыстоўваецца няправільна, аб чым падрабязна скажу ніжэй.

Трэба думаць, што хаця выбарачнае абсьледваньне Белкопсаюзу мела месца толькі ў 31 спаж. т-ве і па іх нельга зрабіць поўнасьцю агульных вынікаў па ўсей БССР, але паколькі гэтае абсьледваньне кранула ўсе акругі, дык яно ў значнай частцы сыгналізуе недахопы з коопэраваньнем батрацтва, і патрабуе масавай праверкі дырэктыў ЦК у гэтай галіне і ўмяшацельства ЦП С.-Г. і Л.-Р.

Далей прааналізуем пытаньне каго-ж коопэруе спаж. коопэрацыя за лік фондаў коопэраваньня беднаты? Тут дадзеныя абсьледаваньня Белкопсаюзу яшчэ горшыя, яны даюць аналіз усяго толькі па 12 спаж. т-вах. Але гэтыя весткі нагэтулькі характэрны, што прымушаюць зьвярнуць на іх увагу і прызадумацца над тым—ці ўсё добра ў нас з правільным скарыстаньнем фондаў коопэраваньня беднаты і ці ня час зрабіць масавую праверку ў гэтых адносінах. Вось лічбы і факты:

Па 12 патрэб. т-вам розных акруг за бядняцкія фонды коопэраваны 4.279 чалавек-гаспадарак, з якіх вызваленых ад ўплаты с-гасп. падатку—1.558 гаспадарак ці 36,42%, а якія плацяць с-гасп. падатак, коопэравана за гэты-ж бядняцкі фонд—2.721 гаспадарка ці 63,52%. Што гэта абман погляду, ці друкарская памылка? Не! Гэта сапраўдныя лічбы абсьледваньня Белкопсаюзу; сапраўдная бедната, якая вызвалена ад уплаты сельгаспадатку, за фонды СБ коопэрыруецца ўсяго толькі на 36%, а больш заможная праслойка сялян за гэтыя-ж фонды на 64%. Прычым гэта грубае скрыўленьне клясавай лініі ня ёсьць вынік аднаго якога-небудзь кварталу году, а ўвайшло ў сыстэму і практыку цэлага шэрагу гадоў і прагрэсуе. Глядзеце, як па гэтым-жа 12 спаж. т-вам атрымліваецца: за лік бядняцкага фонду коопэравана гаспадарак, якія плацілі с-гасп. падатак у 27 г.—899 гаспадарак, у 1928 г.—1925 гаспадар., а ў 1929 г.—2.721 гасп.

Я ўпаўне згодзен, што ў групе, якая плаціць с-гасп. падатак, ёсьць частка беднякоў і мала-заможных серадднякоў, якія трэба будзе коопэраваць за лік фондаў СБ, але-ж павінна захоўвацца чарговасьць. У першую чаргу павінны за гэтыя фонды быць коопэраваны батракі, бядначкі ўдовы, беднякі-калгасьнікі, беднякі, вызваленыя ад уплаты с-гасп. падатку, а затым, калі застануцца фонды, дык іншыя найменш забясьпечаныя бядняцкія праслойкі вёскі. Вось яшчэ некалькі прыкладаў з матар'ялаў абсьледаваньня як скарыстоўваюцца фонды коопэраваньня беднаты і хто коопэраваны.

**Койданаўскае СТ**—серадднякі ў складзе коопэраваных за лік ФСБ складаюць 45,3%, коопэраваны лішэнец—сын дзяка, коопэраваны серадднякі, якія плоцяць с-гасп. падатак больш 100 руб. (добрыя серадднякі!).

**Пярэвіцкае СТ** таксама за лік ФСБ коопэравала: заможных серадднякоў, с-гасп. падатак звыш 100 р., прыкашчык СТ, старшыня с-савету „коопэраваліся самі“.

**Абчаг-Замостацкае СТ.** Коопэраваны лішэнец, былы паліцэйскі, і да дня абсьледваньня быў пайшыкам—поп, былы жандар і былыя белагвардзейцы.

**Радашковіцкае СТ** за ФСБ коопэраваны—былы жандар і шэра

антысавецкіх элемэнтаў, якія высланы за межы БССР і якія ўсё яшчэ лічацца коопэраванымі.

Такіх прыкладаў магчыма было-б прывесьці яшчэ шмат, але і гэтых хопіць для агульнай нагляднасьці.

Аб чым гавораць усе гэтыя факты. 1. Скрыўленьне клясавай пралетарскай лініі ў пытаньнях коопэраваньня беднаты і батрацтва. Ці можна адсюль рабіць такія вынікі і абагульненьні, што ўся сыстэма спаж. коопэрацыі стаіць не на правільных пралетарскіх рэйках? Не. І зусім не! Зрабіць такі аналіз, што ўся патрэб. коопэрацыя ня годная і ўсюды скрыўляе клясавую лінію, гэта было-б палітычнай памылкай і не адказвала-б сапраўднасьці—сыстэма спаж. коопэрацыі бясспрэчна ў сваей асноўнай большасьці здаровая і стаіць на правільным шляху, строга праводзячы клясавую лінію. Але асобныя зьвеньні і асабліва нізавыя сеткі патрэбкоопэрацыі засьмечаны, і яны праяўляюць правую практыку ў сваей працы і патрабуюць неадкладнага пралетарскага лячэньня, шляхам замены нягодных кіраўнікоў найбольш здольнымі, праводзіць строга клясавую лінію. Гэта асноўны вынік.

2. Белкопсаюзу пры дапамозе с-ячэек, гэтак сама пры шырокім актыўным удзеле беднаты і батрацтва трэба неадкладна ў масавым парадку шляхам праверкі на мясцох прагледзець лічбы ўжо коопэраванай беднаты і батрацтва наколькі гэтыя лічбы адказваюць сапраўднасьці, бо проц. усей коопэраванай беднаты (71%) бясспрэчна будзе значна паніжаны, таму што па падліку БКС, у лік каапэраванай беднаты за лік фондаў СБ уваходзіць значная частка сераднякоў, частка кулакоў і інш. антысавецкіх элемэнтаў. Усіх няправільных коопэраваных за лік бядняцкіх фондаў зволіць, а за гэтыя сродкі і адлікі ад прыбытку бягучага гасп. году, у бліжэйшы час поўнасьцю коопэраваць беднату і батрацтва, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на агульнае коопэраваньне беднаты і батракоў і глыбінных пунктаў, дзе няма коопэратыўных ячэек.

3. Хутчэй прапрацаваць мерапрыемствы па лепшаму коопэрацыйнаму абслугоўваньню калгасаў, як шляхам адчыненьня там новых крам, організацыі развознага гандлю, перасовачных ларкоў, таксама і першачарговага організаванага водпуску тавараў калгасам. Даць па пэрыфэрыі растлумачэньне (згодна дырэктывы ЦК) аб парадку організацыі і скарыстаньня 30% фонда ад прыбыткаў патрэбкоопэрацыі па садзейнічаньню калектывізацыі беднаты і батрацтва.

4. Трэба рашуча зьнішчыць такую практыку нізоўкі і гэта як масавае зьявішча, калі коопэраваная беднята амаль не атрымлівае з СТ дэфэцытных тавараў, або калі гэтая бедната па некалькі разоў абівае порогі старшынь і прыказчыкаў, з просьбаю выдаць што-небудзь з дэфіцытных тавараў, а такія „коопэратары“ ўзьдзейнічаюць на беднату мэтадам байкоту: „унясі пай і атрымаеш тавар“ і гэтым „коопэратарам“ так раяць акруговыя інструктары накшталт грамадзяніна Трымайлава з Мазыра. Неабходна так організаваць справу з забясьпечаньнем беднаты дэфіцытнымі таварамі, каб у кожнага прыказчыка крамы быў вызначаны сьпіс беднаты, папярэдня прагледжаны на сходзе беднаты, каб яна, бедната, атрымала тавары першая, а не ў парадку прынцыпу „Каму хопіць“, ці зусім поўнага адказу.

5. Фракцыі Белкопсаюзу, каб быць больш упэўненым у правільным правядзеньні клясавай лініі ў працы сваёй нізоўкі, трэба разам з партячэйкамі і РК узяцца больш сьмялей і рашуча за справу вылучэньня батракоў, с.-гасп. рабочых і беднаты ў кіраўнічы і тэхн. апарат (прыказчыкі) ува ўсей сыстэме і асабліва нізавых спаж. т-вах. Бо нельга-ж прызнаць нармальным такое становішча, калі з 31 абсьледаваных СТ аказалася: на ўсіх 210 членаў праўленьня маецца ўсяго 5 батракоў

і 60 беднякоў (сераднякоў і кулакоў ва ўсіх сводках БКС не паказана), на 3881 чал. упаўнаважаных СТ ёсьць батракоў 66 і беднякоў 246 ч. ці на 182 чал. тэхн. апарату—3 батракі і 32 беднякі—і то мусіць вартаўнікі крам. Тут павінен быць зроблен упарты пералом.

6. Белкопсаюзу пры дапамозе і кіраўніцтве парторганізацыі неабходна ўзяцца за разгортваньне самакрытыкі ва ўсей сыстэме спаж. коопэрацыі.

Трэба падняць коопэрацыйную грамадзкасьць бядняцка-серадняцкіх мас, пашырыць жывое кіраўніцтва, сыстэматычна організаваць праверку выкананьня дырэктыў і аказаць дапамогу нізоўцы па правільнай організацыі і разгортваньню соц. спаборніцтва.

7. Асаблівая ўвага РК і сельячэяк павінна быць зьвернута на палепшаньне якасьці парткіраўніцтва СТ і ўзмацненьне работы па організацыі беднаты і асабліва груп беднаты. З абсьледаваньня 31 СТ устаноўлена, што групы беднаты аформлены толькі ў некалькіх выпадках, а працуе больш нармальна ўсяго толькі адна група беднаты. Усяго рознага роду груп беднаты па ўсей БССР маецца каля 2000, а пры СТ створана толькі 151 група беднаты. Гэта настойна патрабуе ад усіх РК і ячэяк удзяленьня большай увагі рабоце з беднатой і ўзмацненьня тэмпу па організацыі новых груп беднаты пры праўленьнях СТ. Толькі пры палепшаньні парткіраўніцтва працай патрэбкоопэрацыі, толькі пры ўзмацненьні работы з беднатой і правільнай работы груп беднаты можна выканаць узложаныя на СТ задачы пазбавіцца частых выпадкаў скрыўленьня пралетарскай клясавай лініі і правільна організаваць работу па коопэраваньню і снабжэньню беднаты і батрацтва.

Прадстаячыя раённыя нарады і акруговыя конфэрэнцыі груп беднаты павінны паслужыць рашучым паваротам да палепшаньня работы патрэбкоопэрацыі па правільнаму абслугоўваньню і коопэраваньню беднаты і батрацтва.

М. М.

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Плян работы ЦК КП(б)Б на кастрычнік 1929 г.—сакавік 1930 г.

### УСТУПНАЯ ЧАСТКА.

*Верасеньскі Пленум ЦК КП(б)Б падвёў вынікі мінулага плянавага пэрыяду і паставіў цэлы шэраг актуальнейшых для КП(б)Б задач. Пастановы верасеньскага пленуму ахоплівалі амаль усе важнейшыя пытаньні бягучага і прадстаячага пэрыяду і пакладзены ў аснову пляну на бліжэйшыя 6 месяцаў.*

*З асноўных пытаньняў пляну работы ЦК на прадстаячы пэрыяд пытаньні гаспадарчага будаўніцтва займаюць галоўнае месца. Пытаньні пяцігодкі і кантрольных лічбаў на 1929-30 г., палепшаньня кіраўніцтва гаспадарчай работай, мобілізацыі шырокіх мас рабочае клясы навакол задач соцыялістычнае рэконструкцыі, выкананьне пяцігодкі, уздым працоўнай дысцыпліны, зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці продукцыі,—на ўсіх гэтых задачах неабходна яшчэ ў большай меры сканцэнтраваць увагу КП(б)Б і шырокіх мас рабочых. У пляне адведзена вялікае месца пытаньням рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Зямельная палітыка, земляўпарадкаваньне, правідловы напрамак дзяржкрэдыту, рэорганізацыя сыстэмы сел.-гасп. коопэрацыі, забесьпячэньне сельскае гаспадаркі тракатарамі, машынамі і прыладамі,—усе гэтыя мерапрыемствы накіра-*

*ваны ў бок забесьпячэньня ўзмоцненага тэмпу колектывізацыі сельскае гаспадаркі і соцыялістычнае перабудовы вёскі. У сувязі з разгортваньнем масавай колектывізацыі перад організацыяй паўстае цэлы шэраг задач па перабудове работы ўсіх масавых організацый і прыстасаваньні іх да абслугоўваньня колектываў і колектывізаванай бядняцка-серадняцкай, батрацкай масы.*

*На прадстаячы перыяд адным з сур'ёзьнейшых баявых пытаньняў зьяўляецца задача па ўзмацненьні кіруючых партыйных кадраў. Ва ўсіх важнейшых галінах нашае работы: гаспадарчага будаўніцтва, колектывізацыі, ідэолёгічнай і культурнай работы, профэсыянальнай і г. д. мы ўпіраемся ў недахоп кадраў. Дзеля таго плянам прадугледжана шэраг практычных мерапрыемстваў па вырашчываньню, выхаваньню і вылучэньню на кіруючую працу найбольш моцных і ідэолёгічна вытрыманых рабочых—комуністых.*

*У першую чаргу неабходна рашуча палепшыць сыстэму вылучэньня на кіруючую працу. Да апошняга часу сыстэмы ў гэтай працы наогул ня было.*

*Побач з пытаньнямі соцыялістычнага будаўніцтва неабходна асобую ўвагу зьвярнуць на пытаньні ўздыму матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочае клясы. Пытаньні палепшаньня харчовага забесьпячэньня рабочых, палепшаньня працы рабочай коопэрацыі, правядзеньня шэрагу мер па павялічэньні сельска-гаспадарчых продуктаў і значнаму палепшаньню грамадзкага харчаваньня, барацьбы з беспрацоўем і палепшаньня жыльлёвых умоў рабочых—прадугледжаны нашым плянам работы.*

*Праверка і ўсё шырэй і глыбей разгортваючаяся самакрытыка выявілі, што ў галіне ідэолёгічнай і культурнай работы мы маем шмат слабых месц. Пагэтаму неабходна дасканала праверыць усе вучасткі ідэолёгічнай і культурнай работы, правесьці шэраг організацыйных мерапрыемств па ўзмацненьні кіруючых культурных кадраў, праверыць зьмест работы ВНУ, школ і тэхнікумаў, друку і навуковых устаноў пад пунктам погляду забесьпячэньня ідэолёгічнай вытрыманасьці іх работы.*

*Праводзячы ў далейшым яшчэ больш рашучую барацьбу з ухіламі ў нац. рабоце, з нацыянал-дэмократызмам і ўсякім шовінізмам, неабходна ў прадстаячы плянавы пэрыяд праверыць работу ўсіх масавых організацый па лініі правядзеньня беларусізацыі. Ня выключана небясьпека, што ў некаторых выпадках барацьба з нацыянал-дэмократызмам, якая павінна праводзіцца з усёй рашучасьцю, можа засланіць і аслабіць работу па беларусізацыі. Пагэтаму ў плянавы пэрыяд неабходна разьвіць максымальную энэргію і значна пасіліць тэмп гэтае працы з боку ўсіх масавых організацый.*

*З пытаньняў унутры-партыйнага жыцьця па ранейшаму вялікае месца павінны займаць пытаньні рэгуляваньня росту партыі, вярбоўкі рабочых, батракоў і калгасьнікаў у партыю, падвышэньня тэорэтычнай падрыхтоўкі partактыву і політузроўня шырокіх партыйных мас, праверка становішча шэрагу акруговых, раённых і нізавых парторганізацый і прапрацоўка цэлага шэрагу пытаньняў орг. парт. будаўніцтва. Цьвёрда кіруючыся лініяй партыі на сьмелае і шырокае разгортваньне самакрытыкі „ня гледзячы на асобы“, і выходзячы з таго, што самакрытыка яшчэ ў дастатковай меры не разгорнута ў нас, неабходна ўвесь прадстаячы пэрыяд энэргічна працаваць над справай самага рашучага разгортваньня самакрытыкі. Апрача сыстэматычнай праверкі становішча разгортваньня самакрытыкі па лініі ўсіх масавых організацый, неабходна асобую ўвагу зьвярнуць на пытаньне правядзеньня ўсіх паказаньняў шырокіх партыйных і рабочых мас і вынікаў самакрытыкі.*

*Кіруючыся ва ўсёй працы асноўнай лініяй партыі па рашучаму наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, улічваючы далейшае абвастрэньне клясавай барацьбы, неабходна ў плянавы пэрыяд праверыць работу шэрагу важнейшых організацый (зямельных, крэдытных, фінансавых, коопэрацыйных, культурных і інш.) менавіта пад пунктам погляду цьвёрдага правядзеньня клясавае лініі ў іх практычнай працы. Праверка падатковай політыкі фінансавых органаў, лініі і тэмпу работы па колектывізацыі і коопэраваньню батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас, праверка лініі ў справе падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў, зямельнай політыкі і г. д. Усе гэтыя пытаньні ўключаны ў плян работы.*

*Уся работа КП(б)Б і ў далейшым павінна праходзіць пад лёзунгам рашучай барацьбы з усякімі хістаньнямі і ўхіламі ад генэральнай лініі партыі. З асобай рашучасьцю і сілай неабходна змагацца з права-опортуністычнай ідэолёгіяй, бязьлітасна ўскрываць і змагацца з правым ухілам у практычнай рабоце і прымірэнчымі адносінамі да правага ўхілу. У той-жа час неабходна своечасова праводзіць неаслабную барацьбу з усякімі рэцыдывамі троцкісцкай ідэолёгіі, з усякімі спробамі ажыўленьня контр-рэволюцыйных троцкісцкіх ідэй. Уся ўнутрыпартыйная і выхаваўчая работа павінна быць накіравана на яшчэ большае ідэёвае ўзброеньне партыі супроць ухілаў ад ленінскай лініі, на яшчэ большую мобілізацыю ўвагі ўсяе КП(б)Б на барацьбу з права-опортуністычнай ідэолёгіяй і практыкай.*

*Улічваючы, што ўсе пытаньні, уключаныя ў плян работы, маюць актуальнае значэньне і павінны быць абавязкова прапрацованы, неабходна значна ўзмацніць тэмп работы парторганаў. Узмацненьне тэмпу работы павінна праводзіцца адначасова з рашучым палепшаньнем усёй сыстэмы партыйнай работы. Апрача гэтага, значная частка работы плянавага пэрыяду павінна быць удзелена праверцы выкананьня дырэктыў ЦК з боку ўсіх партыйных, гаспадарчых і профэсыянальных організацый.*

*Неабходна ў далейшым рашуча адмовіцца ад такога парадку разгляду пытаньняў, калі матар'ялы, прадстаўляемыя ў ЦК, недастаткова прапрацованы, проэкты пастаноў недастаткова прадуманы і калі вельмі слаба пастаўлена праверка выкананьня дырэктыў.*

*Для палепшаньня падрыхтоўкі і праходжаньня пытаньняў у ЦК неабходна:*

*1. Па некаторых важнейшых пытаньнях, пастаўленых на Бюро, Сакратарыяце і пленуме ЦК, павінны быць вылучаны камісіі, якія папярэдня прапрацоўваюць, вывучаюць матар'ялы і падрыхтоўваюць гэтыя пытаньні. У склад гэтых камісій уцягваюцца ня толькі члены ЦК і ЦКК, але і шэраг адказных партыйцаў, працуючых у розных організацыях. Да прапрацоўкі цэлага шэрагу пытаньняў неабходна таксама прыцягнуць і нашы навуковыя марксысцкія сілы (навуковых працаўнікоў, камвузаўцаў і г. д.).*

*2. Неабходна да распрацоўкі раду важнейшых пытаньняў прыцягнуць таксама працаўнікоў акруговых, раённых камітэтаў і нізавых партячэек.*

*3. Усе матар'ялы па розных пытаньнях Бюро і Сакратарыяту павінны прадстаўляцца не пазьней, як за два тыдні да разгляду гэтых пытаньняў ЦК. Проэкты рэзолюцый павінны быць таксама не пазьней, як за тыдзень да разгляду іх на Бюро і Сакратарыяце, прадстаўлены ў ЦК.*

*4. Работа парт. інфармацыі павінна быць увязана з плянам работы ЦК. Інфармацыя за тыдзень да пастаноўкі кожнага пытаньня абавязана прадставіць адпаведным аддзелам і камісіям, якія прапрацоўваюць пытаньні, увесь маючыйся інформ. матар'ял.*

*5. Асноўная ўвага павінна быць зьвернута на праверку выкананьня рашэньняў і дырэктыў. Па кожнаму пытаньню павінны паказвацца асобы, адказныя за правядзеньне дырэктыў ЦК. Інструктарскі апарат парт. інфармацыі і адпаведныя аддзелы ЦК павінны правяраць пэрыядычнае правядзеньне дырэктыў і рашэньняў ЦК.*

## Плян работы Сакратарыяту ЦК КП(б)Б на пэрыяд кастрычнік 1929 г.—красавік 1930 г.

### I. Кастрычнік.

1. Вынікі камплектаваньня Комунівэрсытэту імя Леніна і Гомельскай савпартшколы (Рэктар Унівэрсытэту, заг. партшколы і АПАД ЦК).

### II. Лістапад.

2. Аб ходзе загатовак (Наркамгандаль, Белкоопсаюз, Палеводсаюз, Саюзхлеб, Скурсындыкат).
3. Аб рэзультатах работы па ліквідацыі пратэрміновак па сельгасп. крэдыту і мобілізацыі сродкаў насельніцтва (ЭКАНА, НКФ, Сельгасбанк).
4. Аб ходзе работы па рэорганізацыі с. г. коопэрацыі, сыстэмы с. г. крэдыта і аб становішчы кіруючых кадраў с. г. коопэрацыі (СНК, Банк, Сельгасп. Саюзы).
5. Аб вылучэньні раёнаў з сплашной колектывізацыяй і вылучэньні ўзорных колгасаў у раёнах (СНК, Калгассаюз, аддзел па працы ў вёсцы).
6. Аб практычных мерапрыемствах па ліквідацыі чаргоў у коопэратывах (Белрабсэкцыя, МЦРК, Наркамгандаль, ЦСПСБ).
7. Аб рэзультатах дню колектывізацыі (Калгассаюз, НКЗ, аддзел па працы на вёсцы).
8. Даклад аб вярбоўцы рабочых партколектывам завода „Бальшавік" (даклад сакратара ячэйкі, Аргаддзел).
9. Даклад аб вярбоўцы ў партыю і рэгуліраваньні соцыяльнага складу гарадзкога райкому у Бабруйску (даклад райкома, Аргаддзел).
10. Штаты і каштарыс на 1929-30 г. па парторганізацыям КП(б)Б (Аргаддзел).
11. Ітогі лячэньня партактыву і плян лячэньня на 1929-30 г. (Аргаддзел).
12. Аб распаўсюджваньні кнігі і газэты у вёсцы (АПАД, Белкоопсаюз, Белдзяржвыдат).
13. Аб рэзультатах камплектаваньня Вузаў, Тэхнікумаў (у парадку праверкі выкананьня дырэктыў ЦК аб палепшаньні соцыяльнага складу) (Наркамасьветы).
14. Аб становішчы і рабоце Дамоў Селяніна (аддзел па працы ў вёсцы, НКЗ).
15. Аб становішчы прафсаюзных кадраў (ЦСПСБ).
16. Аб профсаюзнай рабоце сярод рабочых прыватных прадпрыемств (ЦСПСБ).
17. Пытаньні шэфства і сувязі часьцей Чырвонай арміі з рабочымі масамі.
18. Аб організацыйным пастраеньні і зьместу работы вобчаства садзейнічаньня колектывізацыі (ЦСПСБ, аддзел па працы ў вёсцы).
19. Аб рабоце с. г. сэкцыі саветаў і аграўпаўнаважаных (ЦВК, НКЗ, аддзел па працы ў вёсцы).
20. Аб організацыі кас узаемадапамогі і самастрахаваньне сялянак (Жанаддзел).
21. Аб становішчы работы нацсаветаў (ЦВК, Нацбюро ЦК).

### III. Сьнежань.

22. Аб выкананьні дырэктыў ЦК па падрыхтоўцы кіруючых і тэхнічных кадраў для прамысловасьці (ВСНГ, Наркамасьветы).
23. Даклад аб становішчы і рабоце шкляного завода імя Домбаля (даклад заводакіраўніцтва і ВСНГ).
24. Аб становішчы разьвіцьця прамысловасьці па вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў (ВСНГ, ЭКАНА).
25. Аб рэалізацыі пляназагатовак для экспарта (Дзяржторг, Наркамгандль).
26. Аб становішчы работы ў галіне дзяржстрахаваньня (Белдзяржстрах, СНК).
27. Аб ходзе паступленьняў сел. гасп. налога, рэзультатах індывідуальнага абкладаньня (СНК, Наркамфін).
28. Аб выкананьні дырэктыў ЦК па ўцягненьню зьберажэньняў у Ашчадныя касы (Наркамфін, Галоўашчадкаса).
29. Даклад аб рабоце партколектыву запалкавай фабрыкі „Бярэзіна" і садаклад аднэй цэхавай ячэйкі (даклад сакратара партколектыва і садаклад інструктара).
30. Даклад аб вярбоўцы рабочых у партыю на Віцебскай панчошнай фабрыцы (даклад сакратара колектыва і Аргаддзелу).
31. Даклад двух сельскіх райкомаў.
32. Даклад аднэй савгаскай, аднэй калгаскай і аднэй сельскай ячэйкі.
33. Ітогі нарады латработнікаў (Латбюро ЦК).
34. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК аб партвыхаваўчай рабоце сярод новага партыйнага папаўненьня (АПАД).
35. Аб рабоце сярод сельскай інтэлігенцыі (настаўніцтва, аграномаў, урачоў і г. д.) (АПАД, Саюз Рабземлеса, Працасьветы і Мэдсанпрацы).
36. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК аб уцягненьні дзяцей беднаты ў школу, матар'яльная дапамога дзяцям беднаты (Наркамасьветы, АПАД, Вясковы аддзел).
37. Аб становішчы работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочых, батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі (Наркамасьветы, ЦСПСБ, АПАД).

38. Аб арганізацыі фэдэрацыі беларускіх савецкіх пісьменьнікаў (Бел. АПП, „Полымя“, АПАД).

39. Аб перабудове і прыстасаваньні арганізацыйна-масавай і культурнай працы на прадпрыёмствах з пераважаючай жаночай працай (Жанаддзел, ЦСПСБ).

40. Ітогі прызыва і звальненьня.

41. Работа сярод груп рабочых, якія жывуць у вёсцы (ЦСПСБ).

42. Ітогі зьезду працоўных латышоў (Латбюро ЦК).

43. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК аб стварэньні бядняцка-серадняцкага актыву вакол саветаў: работа камісій сельсаветаў, прыцягненьне актыву на пасяджэньне сельсавету і г. д. (ЦВК).

44. Аб рабоце сярод выбарных сялянак і батрачак (культурна-выхаваўчая, уцягненьне ў практычную работу і г. д.) (ЦВК, Белкоопсаюз, Жанаддзел).

45. Аб становішчы палітвыхаваўчай работы ў камсамоле (ЦК ЛКСМБ).

46. Даклад часопісі „Беларуская работніца і сялянка“ (Жанаддзел ЦК і рэдакцыя часопісі).

### IV. Студзень.

47. Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы кваліфікаванай рабочай сілы для прамысловасьці (Наркампрацы, ВСНГ, ЦСПСБ).

48. Аб становішчы скуранай прамысловасьці (даклад трэсту, ВСНГ, Кам. ЦК).

49. Аб арэндзе зямлі і барацьбе з парушэньнямі асноў нацыяналізацыі зямлі (Наркамзем, ЦВК, Вясковы аддзел).

50. Праверка скарыстаньня фондаў коопэрыраваньня і калектывізацыі беднаты (Белкоопсаюз, СГ Саюзы, Белсельбанк).

51. Аб мерах барацьбы з антысанітарным становішчам гарадоў (НКЗ, СНК).

52. Даклад ячэйкі фабрыкі „Дубровенская мануфактура“ (садаклад інструктара).

53. Даклад аднэй савгаскай, аднэй калгаскай і аднэй сельскай ячэйкі.

54. Аб рэзультатах пераходу на зьменныя ячэйкі на прадпрыемствах (Аргаддзел).

55 Аб кадрах яўрэйскіх працаўнікоў і падрыхтоўцы новых кадраў (Еўбюро ЦК).

56. Аб рабоце вячэрніх школ для дарослых (Наркамасьветы, АПАД).

57. Праверка і выкананьне дырэктыў ЦК аб абслугоўваньні вёскі кіно і радыё (АПАД, Белдзяржкіно, Белкоопсаюз, Радыёцэнтр).

58. Аб рабоце ізб-чытальнь і нардамоў пад кутком поглядуператварэньня іх у цэнтры культурна-асьветнай работы ў вёсцы (Наркамасьветы, АПАД).

59. Аб рабоце па распаўсюджваньню агракультурных ведаў (Наркамасьветы, НКЗ, Агітпроп).

60. Аб становішчы насьценных і многатыражных газэт, палепшаньне іх зьместу і кіраўніцтва (рэдакцыя „Зьвязды“, АПАД).

61. Аб становішчы ШОМ (Наркамасьветы, ЦК ЛКСМБ).

62. Аб рабоце сярод саматужніц (Сампрамсаюз, Жанаддзел).

63. Аб росьце парторганізацыі і рэгуляваньні соцыяльнага складу парторганізацыі ў часьцях БВА.

64. Аб становішчы нач. і паліт. складу часьцей БВА (Пуокр).

65. Аб рабоце сярод новых рабочых, уцягненьне іх у працу профсаюзаў і іх выхаваньне (ЦСПСБ).

66. Праверка становішча работы сярод сэзоньнікаў і будаўнікоў у зімовы пэрыяд (ЦСПСБ).

67. Аб становішчы і далейшых мерапрыемствах па палепшаньню работы ў шэфскіх арганізацыях (ЦСПСБ, Аддзел па працы ў вёсцы, АПАД).

68. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК у галіне інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых і работніц (ЦСПСБ).

69. Аб рабоце камсамола па падрыхтоўцы камсамольскіх кадраў для перадачы ў партыю (ЦК ЛКСМБ).

### V. Люты.

70. Даклад аб становішчы і рабоце запалкавай фабрыкі. „Х кастрычніка“ (даклад заводакіраўніцтва і ВСНГ).

71 Аб становішчы яўрэйскіх калгасаў і мерапрыемствы па іх узмацненьню (Калгассаюз, Камзет, НКЗ, Еўбюро).

72. Аб становішчы лясной гаспадаркі, лесаўпарадкаваньні і барацьбе з лесапарубкамі (Наркамзем, Экана).

73. Аб становішчы шляховага будаўніцтва і шляховым транспарту (СНК, Белшляхшос).

74. Аб пастаноўцы лекавай дапамогі сельскаму насельніцтву (Наркам аховы здароўя, СНК).

75. Аб ітогах работы па перазаключэньню колдагавораў на 1930 г. (ВСНГ, ЦСПСБ).

76. Аб становішчы работы інваліднай коопэрацыі (БСІКА, ЭКАНА).

77. Аб выніках працы па дабрабыту мястэчак і аб далейшых задачах у гэтай галіне (Дзяржплян, ЦВК, Еўбюро ЦК).

78. Даклад ячэйкі Шклоўскай папяровай фабрыкі і садаклад інструктара.

79. Аб вярбоўцы рабочых у партыю на запалкавай фабр. „Везувій“ (даклад сакратара ячэйкі і Аргаддзелу).

80. Даклад двух сельскіх райкомаў.

81. Даклад аднэй савгаскай, аднэй калгаскай і аднэй сельскай ячэйкі.

82. Праверка работы сельпарторганізатараў, узмацненьне іх складу і кіраўніцтва работай сельпарторгаў (Аргаддзел, Аддзел па працы ў вёсцы).

83. Аб рабоце па распаўсюджваньню тэхнічных ведаў сярод рабочых мас (арганізацыя курсаў, гурткоў, лекцый і г. д.) (Наркамасьветы, АПАД. ЦСПСБ).

84. Аб становішчы бібліятэчнай работы (Наркамасьветы, ЦСПСБ, АПАД).

85. Аб пастаноўцы работы па грамадазнаўству ў школах Соцвыху, кадры, выкладчыкаў-грамадаведаў і ідэолёгічная вытрыманасьць гэтай работы (Наркамасьветы, АПАД).

86. Аб становішчы і далейшых задачах па дашкольнаму выхаваньню (НКА, Жанаддзел).
87. Аб антырэлігійнай рабоце і мерапрыемствах па барацьбе з клерыкалізмам сярод польскага насельніцтва (Польбюро ЦК).
88. Аб становішчы палітасьветнай работы сярод работніц і сялянак (АПАД, Жанаддзел, НКА, ЦСПСБ).
89. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК і вайсковай нарады аб нацрабоце ў часьцях БВА (Пуокр, Нацкамісія).
90. Аб політыка-маральным становішчы пагранчасьцей (ДПУ, інструктар ЦК).
91. Аб становішчы працы дэлегацкіх сходаў на прадпрыемствах (Жанаддзел).
92. Даклад аб становішчы і рэалізацыі пляна клюбнага будаўніцтва (ЦСПСБ, ВСНГ).
93. Аб становішчы камсамольскай работы ў калгасах і савгасах (ЦК ЛКСМБ, Аддзел па працы ў вёсцы).
94. Аб уддзеле камсамола ў рабоце сярод вучашчыхся школ, тэхнікумаў і Вузаў (ЦК ЛКСМБ, Наркамасьветы).

### VI. Сакавік.

95. Аб становішчы і задачах па разьвіцьцю мясцовай прамысловасьці (ЭКАНА, ВСНГ).
96. Аб колектывізацыі польскай вёскі (Калгассаюз, Наркамзем, Польбюро).
97. Праверка выкананьня дырэктыў па будаўніцтву індустрыяльна-тэхнічных прадпрыемств па перапрацоўцы с. г. прадуктаў (СНК, НКЗ).
98. Даклад ячэйкі шклянога завода „Труды" і садаклад інструктара.
99. Праверка выкананьня рашэньняў ЦК аб партрабоце ў савгасах і калгасах (Аддзел па працы ў вёсцы, Аргаддзел).
100. Праверка работы зьвенпарторгаў на прадпрыемствах, палепшаньне іх работы, падрыхтоўка і кіраўніцтва (выбарачнае абсьледаваньне і даклад Аргаддзелу).
101. Даклад Менскага Рабфаку.
102. Мерапрыемствы па падрыхтоўцы рабочых ва ВНУ (АПАД, Наркамасьветы).
103. Даклад аб становішчы працы Варнітсо.
104. Аб становішчы работы сельжанаргнізатараў, жанаргнізатараў савгасаў, калгасаў, узмацненьня іх складу і падрыхтоўкі (Жанаддзел ЦК).
105. Аб падрыхтоўцы жаночых кадраў (работніц, батрачак і сялянак ва ВНУ, Рабфакі, Тэхнікумы і г. д.) (Наркамасьветы, Жанаддзел).
106. Праверка выкананьня рашэньняў ЦК аб тэрбудаўніцтве (даклад Менскага і Магілеўскага АК, Пуокр).
107. Пытаньні працы аб культурна-бытавым абслугоўваньні калгасьніц, с. г. работніц (Калгассаюз, Жанаддзел).
108 Аб становішчы працы дэлегацкіх сходаў на вёсцы (Жанаддзел ЦК).
109. Аб рабоце сярод спэцыялістых інжынэраў і тэхнікаў (ЦСПСБ).
110. Аб рабоце па беларусізацыі ў профсаюзах і сярод шырокіх мас (клюбная работа, распаўсюджваньне беларускіх газэт і кніг і г. д.) (ЦСПСБ).
111. Аб становішчы беларусізацыі савецкага апарату (даклад Нацкамісіі).
112. Аб становішчы парткіраўніцтва комсамолам (Оргаддзел, ЦК ЛКСМБ).
113. Даклад аб становішчы харчовай прамысловасьці (даклад Харчтрэсту і ВСНГ).

### VII. Красавік.

114. Аб палепшаньні жыльлёвых умоў рабочых і жыльлёва-коопэрацыйным будаўніцтве (Экана, Белжылсаюз, ВСНГ).
115. Аб выкананьні бюджэту за першае паўгодзьдзе 1929-30 г. (СНК, НКФІН).
116 Аб выкананьні дырэктыў ЦК па ўстанаўленьню і вырабатцы правільных норм і расцэнак на прадпрыемствах (ВСНГ, ЦСПСБ).

## Плян работы Пленуму ЦК КП(б)Б на пэрыяд кастрычнік 1929 г.—сакавік 1930 г.

1. Аб чарговых задачах нацработы.
2. Аб становішчы партыйных кадраў і практычных мерапрыемствах па ўзмацненьні і падрыхтоўцы новых кіруючых партыйных кадраў.
3. Даклад аб становішчы і задачах комсамолу.
4. Аб матар'яльна-бытавым становішчы рабочае клясы.
5. Ітогі чысткі КП(б)Б.
6. Аб сыстэме народнае асьветы.
7. Аб землябудаўнічай політыцы (зямельных нормах, зямельным кодэксе і колектывізацыі).
8. Даклад аб становішчы і рабоце Менскай парторганізацыі.
9. Даклад Магілеўскага АК аб становішчы кіраўніцтве работай па колектывізацыі кругі.
10. Аб задачах па ўзмацненьні вясковых парторганізацый, палепшаньню партыйнай работы калгасаў і савгасаў і кіраўніцтва з боку АК.
11. Аб чарговых задачах работы сярод вясковай беднаты і батрацтва.
12. Аб выкананьні прамфінпляну, колькасных і якасных паказчыкаў у прамысловасьці за 1 квартал 1929-30 г.
13. Аб задачах вясеньняй і асеньняй пасеўкампаніі на 1930 г.
14. Ітогі чысткі, вылучэньня і барацьбы з бюрократызмам у дзяржапараце.
15. Аб выніках хлебанарыхтовак і нарыхтовак сыравіны і інш. с.-г. продуктаў.
16. Аб асноўных мерапрыемствах па ўздыму і далейшаму разьвіцьцю жывёлагадоўлі ў БССР.
17. Даклад Бюро ЦК.

# Плян работы Бюро ЦК КП(б)Б на кастрычнік 1929 г.— красавік 1930 г.

## На кастрычнік:

1. Асноўныя дырэктывы да перазаключэньня колдагавораў на 1929-30 г. (даклад ВСНГБ і фракцыі ЦСПСБ).

## Лістапад.

2. Аб пераводзе прадпрыёмств на бесьперапынны рабочы тыдзень (СНК, ВСНГ, Наркампрацы, ЦСПСБ).

3. Аб ходзе будаўніцтва фабрыкі штучнага валакна (даклад ВСНГ і кіраўн. будаўніцтва).

4. Аб становішчы металёпрамысловасьці ў БССР (даклад Мэтпром, ВСНГ, камісіі ЦК).

5. Вынікі будаўнічага сэзону 1929 г. пад пунктам выкананьня дырэктыў ЦК аб палепшаньні якасьці рацыяналізацыі і патаненьні будаўніцтва і асноўныя мерапрыемствы на бліжэйшы будаўнічы сэзон 1930 г. (даклад ВСНГ, ЭКАНА, Белдзяржбуду і НК РСІ)

6. Аб становішчы аховы працы на прадпрыемствах (даклад Наркампрацы, ЦСПСБ і ВСНГБ).

7. Плян вясеньняй і асеньняй пасеўнай кампаніі на 1930 г. (даклад СНК).

8. Праверка выкананьня дырэктыў ЦК аб разьвіцьці жывёлагадоўлі і пашырэньня кармавой базы (даклад НКЗ, Жывёлаводсаюз, СНК, Вясковы аддзел).

9. Вынікі праверкі становішча і работы навукова-дасьледчых устаноў па сельскай гаспадарцы (даклад камісіі ЦК і ЦКК).

10. Аб харчовым становішчы і практычных мерапрыемствах па палепшаньню абслугоўваньня коопэрацыяй рабочых мас (даклад НКГандлю, Белрабсэкцыі, ЦСПСБ, ЭКАНА).

11. Аб становішчы грамадзкага харчаваньня (Белрабсэкцыя, ЦСПСБ).

12. Даклад Бабруйскага АК і садаклад інструктара ЦК.

13. Даклад аб рабоце Залінейнай парторганізацыі і садаклад інструктара.

14. Аб становішчы вылучэньня комуністых на кіруючую работу і палепшаньня сыстэмы падрыхтоўкі вылучэнцаў (Аргаддзел).

15. Вынікі работы па організацыі і камплектаваньню сеткі партасьветы, становішча прапагандысцкіх кадраў і самаадукацыіі (АПАД).

16. Аб палепшаньні парторгана „Бальшавік Беларусі" (АПАД).

17. Вынікі праверкі хода і рэзультатаў соц. спаборніцтва на прадпрыемствах (фракцыя ЦСПСБ).

18. Вынікі вылучэньня рабочых ад варштату і мерапрыемствы па падрыхтоўцы вылучэнцаў на кіруючую работу (ЦСПСБ).

19. Практычныя мерапрыемствы па палепшаньню работы КСУ (ЦК КСУ і аддзел па працы на вёсцы).

20. Аб рабоце сельсаветаў у раёнах масавай колектывізацыі і абслугоўваньня сельсаветамі калгасаў (ЦВК).

21. Аб удзеле комсамолу і рабочай моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве—соц. спаборніцтва. Палепшаньні працы на прадпрыемствах, працдысцыпліна і гэтак далей (ЦК ЛКСМБ).

22. Аб ітогах вопытнай мобілізацыі ў Бабруйскай і Магілеўскай акругах (даклад СНК, АК, ПУОКР і інструктара ЦК).

## Сьнежань.

23. Аб рэорганізацыі сыстэмы кіраўніцтва ВСНГ і трэстаў пад пунктам забесьпячэньня большай самастойнасьці прыдпрыемств і палепшаньня тэхнічнага кіраўніцтва (даклад ВСНГ і ЦКК РСІ).

24. Пяцігадовы плян калгаснага будаўніцтва (даклад СНК, Калгассаюза, Вясковы аддзел).

25. Аб мерапрыемствах па разьвіцьцю рыбнай гаспадаркі (даклад ЭКАНА, Наркамгандлю).

26. Аб мерапрыемствах па пашырэньні контрактацыі (даклад ЭКАНА, Наркамгандаль, Палеводсаюз).

27. Аб падрыхтоўцы кадраў для сельскай гаспадаркі (даклад НКП, НКЗ, Калгассаюз, Вясковы аддзел).

28. Мерапрыемствы па барацьбе з павышэньнем цэн у коопэрацыі і па зьніжэньню цэн на с.-г. продукты (Наркамгандаль, ЭКАНА Белкоопсаюз, Белрабсэкцыя).

29. Аб рабоце партколектыва Горацкай с.-г. Акадэміі і становішчы работы Акадэміі па падрыхтоўцы кадраў (даклад ячэйкі, рэктара і садаклад камісіі ЦК).

30. Аб выкананьні дырэктыў ЦК у Полацкай парторганізацыі (даклад АК і садаклад інструктара ЦК).

31. Практычныя мерапрыемствы па organiзацыйнаму і якаснаму ўзмацненьню вясковых парторганізацый (Аргаддзел і аддзел па працы на вёсцы).

32. Аб сыстэме народнае асьветы (даклад СНК, Наркамасьветы, АПАД, саюз Працасьветы).

33. Аб становішчы антырэлігійнай работы сярод шырокіх мас (АПАД, Наркамасьветы, ЦСПСБ).

34. Даклад фракцыі навуковага таварыства марксыстых (фр. Т-ва, АПАД).

35. Аб прыстасаваньні масавай і культурнай работы на прадпрыемствах перайшоўшых на 7-гадзінны рабочы дзень і на непрарыўны тыдзень (ЦСПСБ).

36. Аб становішчы работы сярод беднаты ў вёсцы, аб рабоце груп беднаты і мерапрыемствах па палепшаньню работы і парткіраўніцтва групамі беднаты (аддзел па працы ў вёсцы).

37. Аб вылучэньні работніц, батрачак і сялянак у савецкі апарат (ЦВК, Жанаддзел ЦК).

38. (Зачыненае пытаньне).

39. Аб росьце комсамолу, ахопе рабочай моладзі комсамолам, уцягненьні батрацкай і бядняцкай моладзі і соцыяльным складзе комсамольскай організацыі (ЦК ЛКСМБ).

40. Аб выніках перавыбараў дэлегатак (Жанаддзел ЦК).

41. Аб парткіраўніцтве работай сярод работніц і сялянак (выбарачнае абсьледаваньне—Жанаддзел).

42. Даклад NN Падыву і АБВШ (Даклад Падыву, ваенкома школы і інструктара ЦК) сьнежань, люты.

### Студзень.

43. Аб становішчы колькасных і якасных паказчыкаў прамысловасьці за першы і другі квартал 1929-30 г. (даклад СНК) студзень і красавік.

44. Аб выкананьні рашэньняў ЦК аб будаўніцтве прадпрыемств па выпрацоўцы штучных угнаеньняў (даклад ВСНГ).

45. Аб становішчы і пэрспэктывах разьвіцьця тэкстыльнай прамысловасьці. (Тэкстыльтрэст, ВСНГ і камісія ЦК)

46. Аб далейшай працы па пераводу прадпрыемств на 7-гадзіны рабочы дзень і выніках работы пераведзеных ужо прадпрыемств (даклад СНК, ВСНГ, ЦСПСБ).

47. Аб зямельных нормах і зямельным кодэксе (даклад НКЗ і СНК).

48. Аб організацыі машынна-трактарных станцый і забесьпячэньні машынамі і с.-г. прыладамі калгасаў і саўгасаў (СНК, Машынаснабжэньне).

49. Аб становішчы і пэрспэктывах мэліорацыйных работ і скарыстаньня мэліораваных зямель (СНК, НКЗ, Калгассаюз).

50. Аб задачах спажывецкай коопэрацыі ва ўмовах рэконструкцыйнага пэрыяду (Белкоопсаюз, ЭКАНА).

51. Аб выкананьні пляну хлебанарыхтовак. загатовак сыравіны і інш. с.-г. продуктаў (Наркамгандаль, Белкоопсаюз, Полеводсоюз, Саюзхлеб, ЭКАНА).

52. Даклад аб становішчы двух буйных саўгасаў і двух калгасаў (кіраўн. саўгасаў, старшыні калгасаў і Белсельтрэст (студзень і люты.

53. Аб становішчы працы па ўцягненьні ў вытворчую працу яўрэйскай беднаты (Еўбюро ЦК, Белсампромсаюз, Калгассаюз, Комзет).

54. Аб выніках чысткі савецкіх, вузаўскіх і вытворчых ячэек (ЦКК).

55. Аб становішчы работы па ўздыму тэорэтычнай падрыхтоўкі партактыву (АПАД).

56. Аб мастацкім абслугоўваньні шырокіх мас тэатрам, кіно (АПАД, Наркамасьветы, ЦСПСБ).

57. Аб рабоце вытворчых нарад і часовых кантрольных камісій (ЦСПСБ).

58. Аб рабоце профсаюзаў у вёсцы (ЦСПСБ).

59. Аб рабоце горсаветаў пад пунктам погляду шырокага ўцягненьня мас у савецкае будаўніцтва (ЦВК);

60. Аб становішчы комсамольскага актыву, далейшым яго росьце, вылучэньні і выхаваньні (ЦК ЛКСМБ).

61. Мерапрыемствы па ўздыму кваліфікацыі жаночнае працы і ўцягненьні ў вытворчасьць жаночнай рабочай сілы (ВСНГ, Жанаддзел, ЦСПСБ).

62. Аб становішчы партработы ў часьцях БВА (выбарачнае абсьледваньне, даклад ПУОКР'а).

### Люты.

63. Праверка выкананьня дырэктыў аб палепшаньні гаспадарчага кіраўніцтва на прадпрыемствах: узаемаадносіны трохкутніка, гаспадарчае кіраўніцтва парторганіз., удзел профсаюзаў у палепшаньні вытворчасьці (даклад камісіі ЦКК і ЦК).

64. Аб становішчы лясной і дрэваапрацовачнай прамысловасьці (даклад Лесбела, камісіі ЦК. ВСНГ).

65. Пяцігадовы плян разьвіцьця саўгаснага будаўніцтва (організацыя новых, узбуйненьне старых саўгасаў, індустрыялізацыя і мэханізацыя саўгасаў і г. д.) (даклад НКЗ, Белсельтрэста, СНК).

66. Аб рабоце сыстэмы с.-г. крэдыта пад пунктам соцыяльнага напрамку крэдытаў і садзейнічаньня колектывізацыі (даклад СНК, С.-Г. Банка, камісіі ЦКК).

67. Практычныя мерапрыемствы па разьвіцьцю садова-агароднай гаспадаркі (ЭКАНА, садова-агародны саюз, НКЗ).

68. Аб рабоце спажывецкай коопэрацыі ў вёсцы: пашырэньні сеткі коопэраваньня бядняцка-серадняцкіх мас, абслугоўваньне калгасаў і саўгасаў і г. д. (Белкоопсаюз, ЭКАНА).

69. Аб выніках чысткі арцеляў сампромкоопэрацыі, іх папаўненьне бядняцкім элемэнтам і далейшым будаўніцтве новых арцеляў (Белсампромсаюз).

70. Аб становішчы і рабоце Мазырскай парторганізацыі (даклад АК і садаклад інструктара ЦК).

71. Аб разгортваньні самакрытыкі ў парторганізацыях і мэтадах практычнага правядзеньня ўсіх паказаньняў шырокіх партыйных мас (выбарачнае абсьледваньне і даклады Аргаддзелу і ЦКК).

72. Аб становішчы работы вясковай сеткі партасьветы і абслугоўваньня партячэек у саўгасах і калгасах (АПАД, вясковы аддзел).

73. Даклад рэдакцыі „Зьвязда“ (даклад рэдакцыі і АПАД).

74. Аб мастацкай літаратуры (даклад АПАД і БелАПП-а).

75. Аб навуковай пяцігодцы і падрыхтоўцы навуковых працаўнікоў (Наркамасьветы, АПАД).

76. Аб становішчы і задачах клюбнай работы пад пунктам уцягненьня шырокіх мас, палепшаньня зьместу і прыстасаваньня культурнай работы да розных груп рабочых і работніц (ЦСПСБ, АПАД).

77. Аб ходзе соц. спаборніцтва ў вёсцы і задачах па далейшаму разгортваньню соц. спаборніцтва паміж калгасамі, саўгасамі, та-

варыствамі, кооперацывамі і г. д. (Аддзел па рабоце на вёсцы).

78. Ітогі чысткі дзяржапарату (даклад ЦКК).

79. Формы масавай і культурнай работы сярод шырокіх мас рабочай, батрацкай і бядняцкай моладзі (ЦК ЛКСМБ).

80. Аб становішчы кооперавання сялянак ва ўсіх відах вытворчай кооперацыі і ўцягненьня бяднячак і батрачак у калгасы (саюзы с.-г. кооперацыі і Жанаддзел).

81. Палітыка-маральнае становішча часьцей БВА (даклад ПУОКР'а, садаклад камісіі ЦК КПБ).

**Сакавік.**

82. Аб становішчы папяровай прамысловасьці (Папертрэст, ВСНГ і камісія ЦК).

83. Аб становішчы чыгуначнага транспарту і прадпрыемств чыгункі (даклад праўленьня МББ і СНК).

84. Аб становішчы малочна-жывёлаводчаскай кооперацыі (даклад Жывёлаводсаюза, НКЗ, вясковы аддзел).

85. Аб здавальненьні вёскі продукцыяй мясцовай прамысловасьці (ЭКАНА, ВСНГ, Белкоопсаюз).

86. Аб выніках вывучэньня працэса абагуленьня калгасаў і перарастаньня ніжшых форм у вышэйшыя колектывы (камісія ЦК і ЦКК).

87. Аб становішчы беспрацоўя і мерах барацьбы з ім (СНК, Наркампрацы, ЦСПСБ).

88. Праверка выкананьня дырэктыў Белсампромсаюзам (Белсампромсаюз, ЕўбюроЦК, Дзяржплян).

89. Аб гаспадарчым і культурным абслугоўваньні і ўзмацненьні партработы ў прымежных раёнах (СНК, Наркамасьветы, Белкоопсаюз, НКФ, Аргаддзел).

90. Даклад аб рабоце і становішчы арганізацыі 2-га раёну ў В'цебску (даклад РК і садаклад інструктара ЦК).

91. Аб росьце партыі і рэгуляваньні соц. складу пад пунктам выкананьня рашэньняў XII зьезду і верасеньскага пленуму ЦК (Аргаддзел).

92. Аб становішчы і мерах па ўзмацненьню кіруючых кадраў (Аргаддзел).

93. Аб становішчы работы ў тэхнікумах пад пунктам ідэёвага зьместу і якасьці вучэбна-выхаваўчай работы (Наркамасьветы, АПАД).

94. Аб становішчы работы Беларускай Акадэміі Навук (даклад БАН).

95. Аб пастаноўцы агітацыйна-масавай работы на прадпрыемствах, зьместу, формах і падрыхтоўцы агітатараў (АПАД, ЦСПСБ).

96. Даклад аб рабоце Нацкамісі (Нацкамісія, АПАД).

97. Аб масавай і культурнай рабоце на прадпрыемствах з пераважнай жаночай працай (ЦСПСБ, Жанаддзел ЦК).

98. Аб выкананьні дырэктыў ЦК па рабоце сярод батрацтва і с.-г. рабочых (даклад ЦП саюза С.-г. лес. рабочых, аддзел па рабоце ў вёсцы).

99. Аб удзеле комсамолу, батрацкай, бядняцкай і серадняцкай моладзі ў соц. будаўніцтве на вёсцы (ЦК ЛКСМБ).

100 Аб становішчы работы ТСА-авіяхіму (даклад ЦС ТСА-авіяхіму і садаклад інструктара ЦК).

---

# Аб прадстаячай колдагаворнай кампаніі.

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 11/X 1929 г.).*

Ня гледзячы на цяжкасьці мінулага 1928—1929 гаспадарчага году, выцякаючыя з умоў нашага гаспадарчага росту ў тэхнічна адсталай краіне і наперакор прадсказаньням права-опортуністычных ухілістых аб немагчымасьці выкананьня нашых плянавых заданьняў,—першы год 5-годкі, як ва ўсім Саюзе, так і ва ўмовах БССР, у важнейшых галінах выканан у разьмерах, перавышаючых адпаведныя заданьні на 1928-29 г.

Інтарэсы социялістычнага будаўніцтва, абароны краіны, здавальненьне ўсё ўзрастаючых запатрабаваньняў рабочае клясы і працоўных мас на падставе ўсё ўзрастаючага іх матар'яльнага дабрабыту — патрабуюць яшчэ больш шпаркіх тэмпаў індустрыялізацыі і рэконструкцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі на социялістычных падставах. Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Прадстаячая колдагаворная кампанія побач з організацыяй рабочых мас вакол пытаньняў іх матар'яльнага і бытавога становішча, павінна быць праведзена, як шырокая гаспадарча-палітычная кампанія.

Партыйныя, прафэсіянальныя і гаспадарчыя органы ў прадстаячую колдагаворную кампанію павінны сканцэнтраваць увагу рабочае клясы на конкрэтных гаспадарча-палітычных задачах, выцякаючых з гаспадарча-вытворчых заданьняў на 1929-30 г., на пытаньнях павышэньня вытворчасьці працы ў разьмерах, устаноўленых для кожнага прадпрыёмства, узмацненьня прац. дысцыпліны, зьніжэньня сабекаштоўнасьці, зьніжэньня накладных выдаткаў, палепшаньня якасьці прадукцыі, мабілізацыі ўнутры-прамысловых рэсурсаў і правядзеньня непарыўнага тыдню.

2. У прадстаячую колдагаворную кампанію ўсім проф. і гасп. органам неабходна завастрыць увагу шырокіх рабочых мас на тым, што колдагавор ёсьць узаемны абавязак, які падлягае выкананьню як адміністрацыяй, так і рабочымі ў частцы ўзятых імі абавязкаў па пытаньням выкананьня запраэктаванага павышэньня вытворчасьці працы, узмацненьня прац. дысцыпліны, паменшаньня браку і г. д.

Колдагавор ёсьць ня толькі форма рэгуляваньня працы ў вытворчасьці, але ён зьяўляецца важнейшым рычагом гаспадарчага пляну.

3. Побач з узмацненьнем работы профсаюзаў па абароне матар'яльных, бытавых і культурных патрэб рабочых і служачых, злучаючы і зьвязваючы гэтую работу з агульнымі інтарэсамі і задачамі рабочае клясы, профсаюзы і гаспадарчыя органы павінны рашуча змагацца з адсталымі і рвачаскімі настроямі асобных груп рабочых, даваць рашучы бальшавіцкі адпор вылазкам контррэволюцыйных элемэнтаў, астаткам троцкізму і права-опортуністычным настроям, абапіраючыся ў гэтай барацьбе на перадавыя актыўныя пласты рабочае клясы.

4. Устанавіць рост намінальнай зарплаты ў 1929-30 г. па рэспубліканскай прамысловасьці на 8%, пры росьце вытворчасьці працы на 26,2%.

У мэтах падцягваньня зарплаты адстаючых галін прамысловасьці, лічыць неабходным вылучыць фонд на мэханічнае падвышэньне зарплаты з такім разьлікам, каб устаноўлены 8% рост намінальнай зарплаты ня быў правышаны. Разьмер фонду на мэханічную прыбаўку ўстановіць СНКБ. Частка сродкаў з фонду мэханічнае прыбаўкі можа быць таксама выдаткавана на правядзеньне тарыфнай рэформы.

5. Плянавае мэханічнае падвышэньне зарплаты павінна быць праведзена ў сумах, прадугледжаных для кожнага прадпрыемства і галіны прамысловасьці і ні адзін бок не павінен прад'яўляць патрабаваньня аб павялічэньні альбо зьмяншэньні сумы, устаноўленай ВСНГБ і ЦСПСБ па ўзгадненьні з адпаведнымі ЦП саюзаў і трэстамі.

6. У прадстаячую калдагаворную кампанію павінна быць скончана правядзеньне тарыфнай рэформы ў тых галінах прамысловасьці, дзе такая праводзілася, але не скончана. У прадпрыёмствах, для якіх ня прадугледжана мэханічнае падвышэньне зарплаты тарыфная рэформа можа быць праведзена за лік часткі экономіі, атрымоўваемай ад перагляду нормаў выпрацоўкі, які ў гэтым выпадку павінен забясьпечыць ня толькі выкананьне кантрольных лічбаў па зарплаце і вытворчасьці працы, але і неабходныя фонды для правядзеньня тарыфнай рэформы.

Даручыць фракцыям ЦСПСБ і ВСНГБ па ўзгадненьню з адпаведнымі ЦП саюзаў і гасп. органамі ўстанавіць, па якім галінам прамысловасьці павінна быць праведзена тарыфная рэформа.

7. Парадак перагляду нормаў і расцэнак— заставіць мінулагодні, кіруючыся пры гэтым дырэктывамі УсеЦСПС і ВСНГ СССР. Бюро ЦК завастрае ўвагу ўсіх проф. і гасп. органаў пры правядзеньні праверкі і пераглядзе нормаў выпрацоўкі і зьдзельных расценак— неабходна выходзіць з поўнага забесьпячэньня выкананьня росту вытворчасьці працы і зарплаты ў запроэктаваных разьмерах на падставе тэхнічнага нармаваньня, абгрунтаванага сыстэматычным вывучэньнем процэсаў работы, а таксама на падставе вопытных статыстычных данных. Пры гэтым Бюро ЦК завастрае ўвагу ўсіх гасп. органаў на неабходнасьці ўтварэньня належачых умоў працы, своячасовага снабжэньня рабочых матар'яламі, інструмантамі і г. д. Усё гэта павінна быць праведзена пры актыўным удзеле і падтрыманьні проф. організацый.

8. Адзначаючы слабасьць пастаноўкі работы па тэхнічнаму нармаваньню і надаючы вялізарнае значэньне тэхнічнаму нармаваньню працы, якое зьяўляецца важнейшым фактарам у справе правільнай організацыі працы, падвышэньня вытворчасьці працы і правільнага рэгуляваньня росту зарплаты, — Бюро ЦК КП(б)Б прапануе ўсім гасп. органам і проф. організацыям улічыць у сваёй працы па пытаньням тэхнічнага нармаваньня цэнтральнае месца. Профсаюзы і гасп. органы павінны ўлучаць максымум увагі падбору і ўзмацненьню кадру нарміроўшчыкаў.

9. У прадстаячую колдагаворную кампанію асобная ўвага павінна быць улучана профсаюзнымі, плянава-рэгуліруючымі с-гасп. органамі пытаньням росту рэальнай зарплаты. Намечаны рост рэальнай зарплаты ў разьмеры 11% павінен быць выкананы. Профсаюзнымі організацыям павінен быць праяўлен максымум актыўнасьці і настойлівасьці ў справе організацыі рабочага снабжэньня, у асаблівасьці прадавольственных продуктаў, аказваючы ўсямерную дапамогу ў праводзімых нарыхтоўках с. гасп. продуктаў. Неабходна організаваць рабочы актыў для кантролю за работай коопэрацыі і органаў НКГандлю.

10. У бытавой і прававой частцы неабходна захаваць у колдагаварох існуючыя нормы прававых і бытавых умоў з унясеньнем удасканаленьняў на падставе зьмен законадаўства аб працы (водпускі, штотыднёв. і не прарыўны адпачынак пры пераходзе прадпрыемстваў на непрарыўны вытворчы тыдзень).

Аднак пры гэтым не павінна быць пагоршана становішча з спэц. вопраткай.

Разьмер налічэньняў на ўтрыманьне нізавых проф. ячэек і на культработу таксама павінен быць захаваны.

У перазаключаемых колдагаварох неабходна таксама ўстанавіць умовы працы і парадак работы на тых прадпрыемствах, якія пераведзены на непрарыўны вытворчы тыдзень, а таксама прыстасаваць усе бытавыя ўстановы (яслі, дзіцячыя сады, сталовыя і г. д.) да абслугоўваньня рабочых і работніц.

11. Максымум увагі неабходна ўлучыць у прадстаячую колдагаворную кампанію пытаньням аховы працы: агульнаму аздараўленьню умоў працы, пытаньням тэхнікі небясьпекі, поўнага і своячасовага разгортваньня жыльлёвага і клюбнага будаўніцтва, будаўніцтва ясьляў, бань і інш., выходзячы з затрат, запраэктаваных на 1929-30 г. па кантрольных лічбах.

12. У галіне рэгуляваньня працы вучняў і падлеткаў, неабходна кіравацца наступным:

а) У тых галінах прамысловасьці, дзе намечана мэханічнае падвышэньне зарплаты, павінна быць таксама прадугледжана падцягваньне зарплаты вучняў у разьмерах, установленых адпавядаючымі ЦП саюзаў і гасп. органамі пры ўдзелу прадстаўнікоў ЛКСМБ.

б) Сваячасова пераводзіць вучняў з разраду ў разрад, а ў адносінах вучняў апошняга году навучаньня, прадаставіць ім магчымасьць выкананьня зьдзельных работ, на роўных падставах з дарослымі рабочымі з даплатай за скарочаны рабочы дзень па іх асноўнай стаўцы, праводзячы гэтае мерапрыемства больш рашуча ў адносінах падлеткаў дзяўчат.

в) Неабходна прадугледзець у перазаключаемых колдагаварох пытаньні аховы працы культурныя і бытавыя умовы вучняў і падлеткаў, а таксама прыём на работу пераросткаў і дзяцей рабочых, с стаячых на вучоце Біржы працы, нараўне з дарослымі рабочымі—членамі саюзу.

Улічываючы, што за апошні час наглядаецца памяншэньне ўдзельнае вагі ў прамысловасьці падлеткаў-дзяўчат, Бюро ЦК КП(б)Б завастрае ўвагу ўсіх гасп. і проф. організацый і органаў НКПрацы на неабходнасьць больш рашучага ўнядрэньня працы падлеткаў дзяўчат, давёўшы іх удзельную вагу ў адносінах да агульнае колькасьці падлеткаў, занятых у прамысловасьці, ня менш 50%.

г) Максымум увагі павінен быць улучан пытаньням лепшай пастаноўкі абучэньня падлеткаў, як індывідуальнага, брыгаднага вучнёўства, так і школ ФЗВ.

13. У мэтах падвышэньня матар'яльнага і культурнага ўзроўню работніц у прадстаячую колдагаворную кампанію, неабходна асобую ўвагу ўлучаць падвышэньню вытворчай кваліфікацыі работніц, сваячасовай і больш шырокай перадвіжцы іх на вышэйшую кваліфікацыю і абслугоўваньне работніц ясьлямі.

Улічываючы, што па шэрагу галін вытворчасьці адзначаецца паменшаньне ўдзельнае вагі жаночае працы, а ў некаторых прадпрыемствах яўна ці захаванае выцясьненьне жаночае працы—у прадстаячую колдагаворную кампанію павінна быць завострана ўвага на большым унядрэньні жаночае працы ў вытворчасьць.

Побач з працягненьнем лініі па ўцягненьню жанчын-адзіночак у вытворчасьць, неабходна таксама ўзяць курс на ўцягненьне ў вытворчасьць жонак рабочых, састаячых на вучоце Біржы працы.

14. Перад заключэньнем колдагавароў павінна прайсьці масавая праверка выкананьня дзейнічаючых колдагавароў, шырокая справаздачнасьць на рабочых сходах аб выніках выкананьня колдагавароў гаспадарчых органаў, профсаюзаў і вылучаных спэцыяльных рабочых брыгад па праверцы выкананьня дзейнічаючых колдагавароў. Таксама павінна біць праведзена шырокая справаздачнасьць гасп. органаў аб выніках работы і выкананьня вытворчых і фін. плянаў прадпрыемстваў, увязваючы вынікі работы за мінулы год з канкрэтнымі вытворчымі заданьнямі на 1929-30 г.

Прыняць да ведама заяву фракцыі ЦСПСБ, што ва ўсе акругі пасланы брыгады адказных профработнікаў на паўтара—два месяцы для ўдзелу ў праводзімай працы па соц. спаборніцтву, праверцы і заключэньню новых колдагавароў.

15. Пры праверцы дзейнічаючых колдагавароў—Бюро ЦК завастрае ўвагу ўсіх парт., проф. і гасп. органаў на неабходнасьці рашучай барацьбы з парушэньнямі і нявыкананьнем абавязацельстваў, узятых гасп. органамі па колдагавору.

16. Профорганізацыі павінны ўсямерна палепшыць практыку абгаварэньня пытаньняў колдагавароў на агульна-завадзкіх, цэхавых і зьменных сходах рабочых, дабіваючыся пагалоўнага ўцягненьня рабочых у абгаварэньне колдагавароў. Праводзімая колдагаворная кампанія павінна мець пэўны адбітак у рабоце клюбаў і чырвоных кутхоў і ход кампаніі павінен быць поўнасьцю асьветлен у цэнтральным і мясцовым друку, асабліва ў завадзкіх насьценгазэтах.

У частцы тэрмінаў правядзеньня колдагаворнай кампаніі і заключэньне новых колдагавароў, кіравацца дырэктывамі ЎсеЦСПС і ВСНГ.

17. Гасп. органы абавязаны прымаць актыўны ўдзел у правядзеньні колдагаворнай кампаніі ў масах, растлумачваючы рабочым пры актыўнай падтрымцы профорганоў, неабходнасьць нежыццявімыя для прамысловасьці патрабаваньні. Профсаюзы і гасп. органы павінны катэгарычна зжыць дапушчаныя імі памылкі ў мінулагоднюю колдагаворную кампанію, якая ў большасьці выпадкаў была праведзена як вузка-практычная задача, без належнай увязкі з агульна-політычнымі, гаспадарчымі задачамі, якія стаяць перад краінай.

18. Адзначаючы зусім недапусьцімую і шкодную цяганіну, меўшую месца як з боку гаспадарчых, так і проф. органаў у мінулагоднюю колдагаворную кампанію, пры вырашэньні спрэчных пытаньняў, — Бюро ЦК КП(б)Б прапануе ўсім проф. і гасп. органам катэгарычна зжыць у прадстаячай колдагаворнай кампаніі гэтыя зьявішчы.

19. Прапанаваць фракцыям ЦСПСБ і ВСНГБ на падставе дырэктыў Бюро ЦК КП(б)Б і сумесных дырэктыў ВСНГ СССР і ЎсеЦСПС не пазьней 15 кастрычніка г. г. даць сумесны дырэктыўны ліст усім проф. і гасп. органам.

20. У адносінах прадпрыемстваў мясцовай прамысловасьці працколектываў і неіндустрыяльных саюзаў, парадак правядзеньня праверкі і перазаключэньня новых колдагавароў, павінен у асноўным быць такім-жа, як па прадпрыемствам рэспубліканскай прамысловасьці.

21. У адносінах рэгуляваньня заработнае платы па лініі мясцовай прамысловасьці, працколектываў, бюджэтных установ, упраўленскіх апаратаў і гасп.-разьлік. установ—

кіраваціа ўстаноўленымі кантрольнымі лічбамі і стаўкамі, зацьверджанымі НКПрацы па бюджэтным установам.

22. Даручыць фракцыям ЦСПСБ, НКПрацы і ВСНГБ распрацаваць пытаньне аб урэгуляваньні заробчае платы спэцыялістым на 1929-30 г.

Адначасова Бюро ЦК КП(б)Б адзначае недапусьцімае зьявішча з боку асобных гасп. органаў, дапусьціўшых самавольнае павышэньне заработнае платы спэцыялістым.

Даручыць таксама фракцыі ЦСПСБ і фр. ЦП саюзаў савгандльслужачых распрацаваць пытаньне аб рэгуляваньні заработнае платы опэрацыйным работнікам.

23. Прапанаваць Акругкомам КП(б)Б сачыць за правядзеньнем у колдагаварох дырэктыў фракцый ЦСПСБ і ВСНГБ, абгрунтаваных на дырэктывах партыі, абгавараючы папярэдня ўсе прынцыповыя пытаньні колдагаворнае кампаніі да вынясеньня іх на абгаварэньне мас, забясьпечваючы ў ходзе кампаніі праверку работы гасп. органаў, профсаюзаў і партячэек па перазаключэньню колдагавароў і кантроль за выкананьнем дырэктыў.

24. Колдагаворная кампанія за ўвесь пэрыяд яе правядзеньня павінна складаць асноўны зьмест работы партячэек, дзеля чаго неабходна максымальна забясьпечыць масавы характар праводзімай кампаніі, актыўны ўдзел у ёй комуністых і комсамольцаў, поўнае ўсваеньне задачы кампаніі і своечасовасьць яе падрыхтоўкі, не дапускаючы цяганіны ў правядзеньні кампаніі.

Уся работа партячэек па правядзеньню колдагаворнай кампаніі ні ў якім выпадку не павінна замяніць сабою работы профоргана.

25. Фракцыям ЦСПСБ і ВСНГБ сачыць за тым, каб гасп. і проф. арганізацыі строга захоўвалі ўстаноўленыя тэрміны кампаніі і не дапушчалі-б зацягваньня перагавораў канфліктаваньня па малаважным пытаньням. Абавязаць НКПрацы і яго органы на мясцох забясьпечыць хуткае вырашэньне канфліктаў, узьнікаючых пры правядзеньні перазаключэньня колдагавароў і хутчэйшую рэгістрацыю апошніх.

## Аб перавыбарах КСУ.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 14|X—29 г.).*

1. Сакратарыят ЦК адзначае, што апошняя перавыбарчая кампанія КСУ была праведзена пры недастатковым кіраўніцтве з боку большасьці парторганаў, слабай арганізацыі і актыўнасьці батрацка-бядняцка-серадняцкіх мас вёскі і амаль што поўнай адсутнасьці дапамогі з боку рабочых арганізацый. У выніку чаго значная частка асабліва нізавых (вясковых) камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі аказалася засьмечана клясава-чуждымі і непрацаздольнымі элэмэнтамі, якія ня здольны і ня могуць выконваць дырэктывы партыі і ўраду па ўзмацненьню работы КСУ, актыўнаму ўдзелу іх у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і выразнаму правядзенью клясавай лініі.

2. Улічваючы, што КСУ на даным этапе, як масавая батрацка-бядняцка-серадняцкая організацыя вёскі, павінна заняць вялікую ролю і значэньне ў справе актыўнага садзейнічаньня і дапамогі да сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі і організацыі асноўных мас сялянства для далейшага рашучага наступленьня на капіталістычныя элемэнты, а таксама маючы на ўвазе, што перавыбарчая кампанія КСУ будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі кулацкія і іншыя варожыя элементы будуць усімі мерамі і спосабамі старацца пралезьці ў кіруючыя органы камітэтаў узаемадапамогі, таму перавыбарчая кампанія КСУ набывае важнае палітычныя значэньне і патрабуе мобілізацыі вакол яе партыйных рабочых мас і ўсіх батрацка-бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі, дабіўшыся рашучага ўзмацненьня кіруючай ролі ў КСУ за батракамі, с. г. рабочымі, беднатой і калгасьнікамі.

3. Уся перавыбарчая кампанія павінна прайсьці пад знакам рашучага ачышчэньня кіруючых органаў КСУ ад кулацкіх і ўсіх варожых элемэнтаў, пад знакам разгортваньня самакрытыкі ўсёй працы КСУ, поўнай яўкі на выбарчыя сходы батракоў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас.

Кампанію перавыбараў неабходна шырока выкарыстаць і правесьці ўсю працу пад знакам генэральнай перабудовы ўсяе працы КСУ ў напрамку актыўнага ўдзелу ў падняцьці і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, галоўным чынам у організацыі буйных калгасаў, разгортваньні масавай і сплашной колектывізацыі. Забясьпечыць скарыстаньне максымуму сродкаў на дапамогу батрацтву і беднаце ўваходзіць у калгасы праз унясеньне паёў, праз усямерную дапамогу ім. Кожны КСУ павінен мець пэўныя цьвёрдыя заданьні па ўцягненьні батрацтва і беднаты ў калгасы— у выніку перавыбарчая кампанія павінна садзейнічаць:

а) далейшаму ўзмацненьню бяднацка-серадняцкага блёку, далейшаму разгортваньню масавай сплашной колектывізацыі, організацыі буйных калгасаў і вытворчаму коопэраваньню.

б) Рашучаму палепшаньню работы груп беднаты пры КСУ, палепшаньню ўсяе працы КСУ і далейшаму наступленьню на капіталістычныя элемэнты вёскі.

4. Выходзячы з чаго, Сакратарыят ЦК прапануе:

а) АК і РК КП(б)Б забясьпечыць сталае штодзеннае кіраўніцтва ўсім ходам перавыбарчай кампаніі і прыняць актыўны ўдзел у распрацоўцы практычных плянаў па перавыбарам раённых і сельскіх камітэтаў узаемадапамогі і прадпрыемствам па ўзмацненьні і палепшаньню іх працы.

б) Парторганам і фракцыям профэсыянальных саюзаў, па прыкладу перавыбараў сельсаветаў, організаваць масавыя выезды ў вёску

рабочых брыгад у дапамогу перавыбарам КСУ.

в) Для большага прыцягненьня батракоў у склад новых КСУ, узмацненьня груп беднаты ў іх, прызнаць неабходным пашырыць склад КСУ да 11 ч. у вялікіх сельсаветах і да 9 чал. у меншых.

г) АК і РК КП(б)Б прыняць неабходныя меры па ўзмацненьні КСУ кіруючымі работнікамі, узяўшы рашучы курс на вылучэньне для гэтае мэты батракоў, калгасьнікаў і дэмобілізаваных чырвонаармейцаў з бядняцка-серадняцкіх колаў.

д) Перад правядзеньнем агульна-сялянскіх справаздачна-перавыбарчых сходаў неабходна папярэдня правесьці ў масавым парадку шырокія сходы беднаты і батракоў, для абгаварэньня кандыдатур у новы склад КСУ і рэвкамісій.

е) АК і РК прыняць неабходныя меры да максымальнага прыцягненьня на справаздачна-перавыбарчыя сходы батракоў, рабочых саўгасаў і калгасьнікаў, забясьпечыўшых іх уплыў у складзе камітэтаў узаемадапамогі і іх рэвізійных камісіях. ЦК зварочвае асаблівую ўвагу парт. організацый на неабходнасьць рашучага ўцягненьня батрацтва ў склад кіруючых органаў.

ж) Для максымальнага прыцягненьня выбаршчыкаў на выбарчыя сходы неабходна арганізаваць спэцыяльныя выбарчыя вучасткі (па прыкладу перавыбараў сельсаветаў) і забясьпечыць сваячасовае ўручэньне выбарчых павестак.

з) З мэтай найбольшага і актыўнага ўдзелу ў выбарах жанчын, неабходна папярэдня праводзіць дэлегацкія сходы жанчын з такім разьлікам, каб актыў дэлегатак зьявіўся зьвязваючым зьвяном па прыцягненьні на сходы ўсіх жанчын батрачак, бяднячак, серадняčак і калгасьніц. Правесьці асобныя сходы сялянак (батрачак, бяднячак і серадняčак) з пастаноўкай на гэтых сходах дакладаў вылучэнак, працуючых у КСУ. У складзе новых КСУ павінна быць абрана ня менш 25% жанчын, а таксама павялічыць удзел батрачак і бяднячак у складзе кіруючых работнікаў, як раённых, так і сельскіх КСУ.

і) Для стварэньня большай ініцыятывы і самадзейнасьці асноўных мас сялянства ў рабоце камітэтаў узаемадапамогі, прызнаць неабходным, як вопыт, правесьці частковае разбуйненьне сельскіх КСУ прыкладна да 5 на раён у больш буйных вёсках.

к) Пасьля сканчэньня выбараў КСУ і перад скліканьнем першых пленумаў іх, неабходна папярэдня правесьці паседжаньне груп беднаты данага КСУ, на якім абгаварваецца склад прэзыдыуму КСУ і іх кіруючых работнікаў, а таксама на гэтым паседжаньні беднаты орган зоўваюцца групы беднаты і прымаецца плян далейшае працы групы.

л) Выбары сельскіх камітэтаў павінны быць скончаны да 15 студзеня, а раённыя зьезды КСУ да 1 лютага 1930 г. Модус прадстаўніцтва па перавыбарам камітэтаў заставіць мінулагодні. Спэцыяльнай справаздачнай кампаніі КСУ не праводзіць. Справаздачы КСУ і іх выбары павінны быць праведзены на адным сходзе.

м) Для кіраўніцтва перавыбарамі КСУ і ўсёй падрыхтоўчай работы стварыць выбарныя камісіі—акруговыя пры Акрвыканкоме, раённыя і сельскія пры камітэтах узаемадапамогі. АК і РК КП(б)Б прыняць меры да забесьпячэньня выбарчых камісій строга клясавым складам і недапушчэньняў у такія кулакоў і інш. варожых элемэнтаў, увязаўшы ўсю работу камісій з шырокай сувязьзю і дапамогай ёй у рабоце, з боку асноўных мас сялянства.

н) Пры складаньні і абгаварэньні наказаў новым камітэтам, неабходна завастрыць увагу на ўзмацненьне гаспадарчага абслугоўваньня жанчын бяднячак, на большы ўдзел КСУ ў організацыі культурна-бытавых устаноў.

о) Даручыць ЦК ЛКСМБ і ЦСПСБ і Жанаддзелу ЦК і фракцыі ЦП саюзу с.-г. лесрабочых і Працасьветы па сваёй лініі даць мясцом адпаведныя ўказаньні аб дапамозе ў перавыбарчай кампаніі КСУ, а рэдакцыям цэнтральных і акруговых газэт разгарнуць асьвятленьне ў друку як падрыхтоўчай, так і перавыбарчай кампаніі КСУ.

## Аб выніках прыёму студэнтаў у Беларускі Комуністычны Унівэрсытэт імя У. І. Леніна ў 1929-30 годзе.

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 21/X—29 г.).*

Адзначыць, што:

1. У складзе прыёму бягучага году маецца значнае павялічэньне рабочага ядра (62%—у мінулым было 50%); значна павялічылася колькасьць рабочых ад варштату (з 25,6% да 30,6%) і ў агульным ліку рабочых павялічылася колькасьць рабочых беларусоў (52% замест 48%). Больш раўнамерна прадстаўлены ўсе галіны—партыйнай, савецкай, профэсыйнай і інш. работы. Наглядаецца значнае імкненьне да паступленьня ў Комунівэрсытэт рабочых—партыйцаў, што сьведчыць аб росьце аўтарытэту Комунівэрсытэту.

2. Дырэктыва ЦК аб прыёме, дадзеная пры ацэнцы вынікаў мінулага прыёму (гл. Сакратарыяту № 51, ад 25/X—28 г.) па шэрагу важнейшых паказацеляў ня выканана. Зноў наглядаецца значнае павялічэньне колькасьці т. т. з маладым партстажам і недастатковым стажам актыўнае партыйнае работы(са стажам да 23 г. было 31,2%, зараз—16.6%, ад 24 да 27 г. было 68,8% зараз маем 83,4%).

Па нацыянальнаму стажу паменшылася агульная колькасьць беларусаў (было 71%, зараз—60); тэксама маецца памяншэньне жанчын (з 20% да 15,2%).

3. Акруговыя камітэты праявілі недастатковую ўвагу да камплектаваньня і рэгуляваньня складу паступаючых; адсутнічае ў парторганізацыях растлумачальная работа і набор у большасьці праходзіў самацёкам; пры агульным выкананьне разьвёрсткі – буйнейшыя парторганізацыі Гомельскае і Віцебскае акругі на 29% не запоўнілі месцы, якія ім былі прадстаўлены.

4. Праводзімая ўпяршыню завочная дакамвузаўская падрыхтоўка сябе апраўдала. Папярэдняя падрыхтоўка атрымала асобнае значэньне таму, што пераважная большасьць паступаючых была з хатняй (39,2%) і ніжэйшай (46,9%) адукацыяй. Набор студэнтаў, ня гледзячы на вызначаныя тэрміны, праходзіў увесь час, чым зрывалася папярэдняя падрыхтоўка (займалася 80% падаўшых заявы, 34 цалкам прапрацавалі праграмы, усяго выканана 822 работы—50% патрэбы).

Прапануецца:

1. Пры надыходзячым наборы абавязкова дабіцца павялічэньня складу з большым партстажам, пры замацаваньні дасягнутага рабочага ядра і павялічэньня яго ня менш 75%.

2. Дабіцца павялічэньня проценту беларусаў ня менш 70%.

3. Дабіцца павялічэньня проценту жанчын ня менш 20%.

4. Дабіцца павышэньня ліку кандыдатаў, маючых большы стаж актыўнае партработы.

5. Акруговым камітэтам і праўленьню БКУ разгарнуць больш шырокую растлумачальную работу па вярбоўцы кандыдатаў у рабочых ячэйках і сярод вясковага партактыву, асабліва калгасьнікаў і саўгасьнікаў, на грунце дырэктывы, якая раней была дадзена ЦК.

6. Даручыць АПАД і БКУ распрацаваць і правесьці шэраг адпаведных мерапрыемстваў па поўнаму ўкамплектаваньню прыёму ў наступным навучальным годзе.

7. Працягнуць падачу заяў к наступнаму набору да 1-га сьнежня. Комунівэрсытэту забясьпечыць папярэднюю дакамвузаўскую падрыхтоўку.

8. Паставіць у другой палове сьнежня даклад Праўленьня аб папярэдніх выніках набору на 1930-31 вуч. год і складзе падаўшых заявы.

9. Пашырыць колькасьць слухачоў Камвузу на 120 асоб у наступным навучальным годзе, і для першага курсу дадаткова прыняць 25 чалавек.

## Аб працы сярод працоўных жанчын у спажывецкай коопэрацыі

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 21-Х—29 г.).*

1. За апошні год наглядаецца значнае павялічэньне актыўнасьці працоўных жанчын пайшчыц спажывецкай коопэрацыі, якая ішла па лініі ўдзелу ў абгаварэньні пытаньняў, зьвязаных з выяўленьнем недахопаў у рабоце. Аднак, гэта актыўнасьць часта належным чынам ня была організавана і не скарыстоўвалася кіруючымі органамі коопэрацыі ў бок палепшаньня работы. За апошні год таксама наглядаецца значны ўзрост жаночага коопэрацыйнага актыву (з 2594 чалавек да 8.720 чалавек). Праца з ім палепшылася і стала больш сыстэматычнай.

2. Недастатковы тэмп коопэраваньня працоўных жанчын асабліва работніц, батрачак, саўгасьніц, калгасьніц і бяднячак. Слабы рост коопэрацыйных бытавых устаноў і асабліва нездавальняючае ахапленьне імі калгасаў і саўгасаў. Адсутнічае высоўваньне работніц, батрачак і бяднячак на кіруючую работу ў акруговыя і цэнтральныя коопэрацыйныя організацыі. Нездавальняюча організавана дапамога вылучэнкам, працуючым у нізавой сетцы, чым паніжаецца іх актыўны ўдзел у коопэрацыйнай рабоце.

Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе:

1) Да 1-га кастрычніка 1930 г. давесьці да 15 проц. удзельную вагу коопэраваных жанчын у адносінах да агульнага ліку пайшчыкаў па вясковай сетцы і да 35 проц. па гарадзкой. Значна павялічыць коопэраваньне работніц, батрачак, калгасьніц і бяднячак.

2) Не пазьней 1-га студзеня праверыць коопэраваньне батрачак, калгасьніц і бяднячак, стаячых на чале гаспадаркі і выкананьне дырэктыў аб ільготным коопэраваньні працоўных сялянак і жонак рабочых бяднячак, муж'я якіх ужо састаяць пайшчыкамі спажывецкай коопэрацыі.

Даручыць Белкоопсаюзу выдзяліць спэц. фонд з фонду беднаты для коопэраваньня жонак бяднячак і батрачак.

3) Прапанаваць БКС на працягу году сыстэматычна правяраць адлічэньне і выдаткаваньне сродкаў на бытавыя ўстановы, дабіваючыся сваячасовага і поўнага скарыстаньня адлічэньняў па ўсёй сетцы. Пры разгортваньні бытавых устаноў на вёсцы 75 проц. сродкаў павінна быць скарыстана ў соц. сэктару.

4) Улічваючы вялікі процант абнаўленьня ў справаздачна-перавыбарчай кампаніі жаночага коопэрацыйнага актыву, лічыць неабходным у надыходзячую справаздачна-перавыбарчую кампанію замацаваць на коопэрацыйнай працы лепш працаздольных актывістак (сяброў праўленьня, упаўнаважаных, сяброў камісій) мінулага выбару з работніц, батрачак і бяднячак. Высунуць на адказную кіруючую коопэрацыйную працу 4-х работніц, альбо батрачак у Р/С і аднаго сталага працаўніка сябром праўленьня БКС.

5. Для падрыхтоўкі вылучэнак з работніц, батрачак і бяднячак на кіруючую працу у Р/С і с/т-вах, даручыць БКС організаваць 3-хмесячныя курсы на 60 асоб, уцягнуўшы ў іх ня менш 50 проц. жанчын. Разам з гэтым даручаецца Белкоопсаюзу на ўсіх іншых курсах, якія будуць праводзіцца, уцягнуць ня менш 50 проц. жанчын.

# У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КП(б)Б.

## Рэзалюцыя III Пленуму ЦКК КП(б)Б аб рэвалюцыйнай законнасьці і становішчы судова-сьледчага апарату.

1. Заслухаўшы даклад т. Сташэўскага і т. Вінаградава аб рэвалюцыйнай законнасьці і становішчы судова-сьледчага апарату, Пленум ЦКК зазначае, што, ня гледзячы на агульнае ўмацаваньне рэвалюцынай законнасьці ў БССР, выкрыцьцё на працягу 1928-1929 г. г. шэрагу нецярпімых і злачынных зьявішчаў разлажэньня асобных зьвеньняў судовага апарату паказала са ўсёй яскравасьцю нездавальняючасьць яго становішча, як вынік значнага недагляду і слабага кіраўніцтва з боку НКЮ ў мінулай яго дзейнасьці. Аднак, прынятыя з боку ЦКК РСІ і НКЮ меры рашучага аздараўленьня судовых органаў ня спынілі ў корані наглядаючыяся і ў сучасны момант выпадкі скрыўленьня клясавай лініі, фармалізму і бюрократычнай цяганіны з боку органаў сьледзтва і суду, і з боку органаў юстыцыі ня зроблена ўсё тое, што забясьпечвала-б сталае ажыцьцяўленьне рэвалюцыйнай законнасьці і выпаўненьне галоўнейшых дырэктыў партыі: патрэбен больш моцны і рашучы пералом ва ўсёй дзейнасьці ўсіх судова-пракурорскіх і сьледчых органаў, каб шляхам узмацненьня кіраўніцтва і ўвагі з боку партыйных і савецкіх органаў, ачышчэньня ад элемэнтаў кулацкага перараджэньня і ад тых, што не жадаюць выконваць клясавую лінію партыі, і шляхам самага рашучага арабочаньня зрабіць судова-сьледчыя органы ўзорным правадніком сацыялістычнага наступленьня пралетарскай дыктатуры, „жалезнай рукой пралетарыяту“. Пленум ЦКК разам з тым падкрэсьлівае, што ахова і ажыцьцяўленьне рэвалюцыйнай законнасьці зьяўляецца канечне патрэбным абавязкам ня толькі органаў юстыцыі, а і кожнай савецкай дзяржаўнай і грамадзкай установы і іх працаўнікоў і працоўных мас у ажыцьцяўленьні вялікага пляну сацыялістычнага будаўніцтва.

2. Барацьба з бюрократызмам і цяганінай не знайшла яшчэ сабе дастатковага адбітку ў працы органаў юстыцыі, якія яшчэ зусім недастаткова ўсвоілі сваю ролю заядлага барацьбіта са зьявішчамі бюракратызму ў дзяржапараце, што выказваецца ў шматлікіх фактах беспадстаўнага спыненьня спраў аб бюракратызьме, „папяровай“ барацьбе з бюкратычнымі зьявішчамі ў выглядзе накіраваньня спраў на вырашэньне ўстаноў у адміністрацыйным парадку, неасьвядомленасьці мас аб судзе над бюракратамі і адсутнасьці адкрытага суду над імі перад шырокімі масамі. Асуджаючы гэтую недапушчальную сыстэму паслабленьня ролі суду ў барацьбе з бюракратызмам, як праяўленьне супраціўленьня дырэктывам XV зьезду УсеКП(б), Пленум ЦКК прапануе органам Пракуратуры і КК-РСІ павесьці жорсткую барацьбу з гэтымі праявамі прымірэнчых адносін і недаацэнкі барацьбы з бюрократызмам і ў далейшым гэтую дзейнасьць суду весьці галосна, перад шырокімі масамі, у клюбах, на прадпрыемствах, з шырокім выкрыцьцём бюрократаў і валакітчыкаў праз друк. Па гэтых справах неабходна больш моцнае прыцягненьне да самай жорсткай адказнасьці і ня толькі ў мэтах прыстасаваньня вядомай меры сацыяльнай абароны, але і затым, каб праз судовыя працэсы прыцягнуць увагу шыракай савецкай грамадзкасьці, выяўляць сапраўдных насіцеляў бюракратызму, цяганіны і нядбайных адносін да прапаноў і самакрытыкі рабочых мас, праводзячы, такім чынам, шырокую выхаваўчую працу па папярэджаньню і зьнішчэньню злоснага бюракратызму.

3. Адзначаючы вялікую ролю самакрытыкі і друку ў справе выкрыцьця злачыннасьці і праробленую працу органаў пракуратуры ў ажыцьцяўленьні самакрытыкі, — Пленум, аднак, лічыць, што ў гэтай галіне працы судова-сьледчыя органы яшчэ не заўсёды стаяць на вышыні задачы разгортваньня самакрытыкі, аб чым сьведчаць факты фармальнага і маруднага рэагаваньня на заметкі ў друку, беспадстаўных абвяржэньняў і незразуменьня лёзунгу самакрытыкі, што выказалася ў асаблівасьці ў ганебных фактах прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці за самакрытыку пад выглядам прыцягненьня за клевету (Орша, Мазыр, Полацак), што такім чынам, трэба разглядаць справу як скарыстаньне судовых органаў для глушэньня самакрытыкі і доказ таго, што самакрытыка ў працы судова-сьледчага апарату разгорнута вельмі слаба і нездавальняюча.

Пленум ЦКК абавязвае органы юстыцыі цалкам скарыстоўваць усе матарыялы друку, у якіх высьвятляюцца розныя віды крымінальнай злачыннасьці, паставіўшы належным чынам хуткае рэагаваньне і паведамленьне друку аб іх выніках. Асабліва баявой і хуткай павінны быць дзейнасьць судова-пракуроскіх органаў у абароне рабселькораў і наогул актыўных барацьбітоў з бюракратызмам ад перасьледваньня і гэткай формы ганеньня, як выкрыцьцё імя рабселькораў пры праверцы карэспандэнцыі, разглядаючы гэта перасьледваньне за самакрытыку і нядбайныя адносіны да такіх спраў, як самае цяжкае злачынства.

4. З прычыны нездавальняючасьці складу судова-сьледчага апарату, падпадзеньня яго пад уплыў варожых і бюракратчных элемэнтаў,—наглядаюцца даволі частыя выпадкі грубога скрыўленьня клясавай лініі, няўважлівасьць і недаацэнка палітычнага і грамадзкага характару спраў, невыкананьне асноўных дырэктыў партыі і савецкай улады, змазваньне справы, частыя перагляды і адмены

спраў па судовай лініі. Пленум ЦКК прапануе органам ЦКК і НКЮ абвясьціць самую рашучую барацьбу з тэндэнціямі і фактамі замазваньня спраў, не застанаўляючыся перад зьняцьцем, вычысткай з апарату і прыцягненьнем да партыйнай і крымінальнай адказнасьці.

Асабліва патрэбна самым рашучым чынам рэагаваць на парушэньні дырэктывы XV зьезду ЎсеКП(б) аб незьмягчэньні прыгавароў членам партыі і няўмешваньні мясцовых органаў у беспасрэдную працу судоў па канкрэтных справах у мэтах дауленьня на суд, паслабленьня віны і г. д. Гэтыя недапушчальныя зьявішчы, якія ўсё яшчэ наглядаюцца. ня гледзячы на досыць выразныя дырэктывы партыі і ЦКК КП(б)Б, патрабуюць, каб органы КК-РСІ ўзмацнілі меры барацьбы з імі аж да крымінальнай адказнасьці і сваячасова паведамлялі аб іх ЦКК КП(б)Б. Пленум ЦКК даручае АКК разглядзець усе факты такіх парушэньняў рэвалюцыйнай законнасьці, якія выяўлены пры абгаварэньні дакладаў аб рэв. законнасьці на апошніх пленумах АКК.

5. Шматлікія зьявішчы разлажэньня асобных зьвеньняў судова-сьледчага апарату, няздольнасьць барацьбы з бюракратызмам і іншыя даволі сур'ёзныя недахопы суда са ўсёй вастратой ставяць задачу ажыцьцяўленьня рашучага ачышчэньня судова-сьледчых органаў ад клясава-чужых, разлажыўшыхся элемэнтаў і парушнікаў рэвалюцыйнай законнасьці. Адзначаючы, што прынятыя да гэтага часу меры ачышчэньня судовых органаў зьяўляюцца зусім недастатковымі,—Пленум ЦКК ухваляе мерапрыемствы Прэзыдыуму ЦКК аб арганізацыі шырокай праверкі і чысткі судова-сьледчага апарату ў першую чаргу і прапануе цэнтральнай камісіі па чыстцы і НКЮ забясьпечыць поўнае выкананьне дырэктывы ЦКК УсеКП(б) і Калегіі НК РСІ СССР аб чыстцы судова-сьледчага апарату, асабліва рашуча правесьці арабочаньне кадраў і падрыхтоўку іх праз арганізуемыя курсы вылучэнцаў і курсы перападрыхтоўкі, дабіўшыся поўнага матарыяльнага забясьпечаньня курсантаў на час іх падрытоўкі, НКЮ павінна ўзмацніць інстытут стажораў і практыкантаў, арганізаваць навакол працы судова-сьледчых органаў судовы актыў з рабочых, якія намечаны для вылучэньня і цікавяцца працай суду і з актыўных нарзасядацеляў, ствараючы тым самым сталы рэзэрв для вылучэньня,

Асуджаючы існуючую нездавальняючую падрыхтоўку судовых працаўнікоў у ВНУ (Праўнае Аддз. БДУ), які часам выпушчае клясава-чужы элемэнт і несуадпавядяючы задачам савецкага суду, калі выкладаньне ў ім носіць элемэнты буржуазнага права,—Пленум ЦКК прапануе НКА самым рашучым чынам зьмяніць кіраўніцтва Праўным Аддзяленьнем БДУ, дабіваючыся лепшага сацыяльнага падбору студэнтаў і настаўніцкага складу, да выкананьня гэтай задачы максымальна прыцягнуць НКЮ.

У зьвязку з недастатковым матарыяльным забесьпячэньнем працаўнікоў нізавога судовага апарату, што зьяўляецца значнай перашкодай яго арабочаньня, — Пленум ЦКК лічыць неабходным у бліжэйшым бюджэтным годзе вырашыць гэтае пытаньне ў станоўчы бок, разам з тым стварыць матарыяльныя ўмовы НКЮ для большай мажлівасьці выездаў на рэвізіі судоў, нарад судова-сьледчых працаўнікоў, выездаў сэсіі Вярхсуду і акр. судоў, пракурораў і сьледчых на месцы.

6. Ня гледзячы на рад спрыяючых умоў для стварэньня шырокай грамадзкасьці навокал працы органаў юстыцыі,—Пленум ЦКК констатуе яўную недастатковасьць сувязі судова-сьледчых органаў з масамі і прапануе ўзмацніць усе існуючыя мэтады сувязі з масамі і замацаваць у далейшай працы практыкуемыя, у зьвязку з чысткай, формы масавага кантролю рабочых арганізацый (часовыя кантрольныя камісіі, прымацаваньне прадпрыемстваў, рабочыя брыгады і г. д.), пашыраць практыку выяздных сэсій на мясцох (вёска, завод, установа), узмацніць працу з нарзасядацелямі, у прыватнасьці праз прыцягненьне іх на пленумы судоў; павялічыць склад пленумаў судоў, увёўшы ў іх прадстаўнікоў прафсаюзаў, РСІ. АВК; арганізаваць ва ўсіх гарсаветах адміністрацыйна-праўныя сэкцыі, павялічыць скарыстаньне грамадзкіх абвінаваўцаў у суадпаведных працэсах і г. д. У галіне асьвятленьня працы судова-сьледчых органаў у друку трэба значна пашырыць гэтае асьвятленьне, лічачы зусім недастатковым існуючую „судовую хроніку"; лічыць неабходным выданьне папулярнай юрыдычнай літаратуры ў мэтах прапаганды савецкага права.

7. Ва ўмовах лютага супраціўленьня капіталістычных элемэнтаў мерапрыемствам па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і выцясьненьню прыватна-капіталістычнага сэктару, зьявішчаў тэрару з боку клясава-варожых элемэнтаў, ад органаў юстыцыі, якія часам слаба і несваячасова праводзяць барацьбу з гэтымі праявамі клясавага ворагу, патрабуецца самае рашучае ўзмацненьне сваёй дзейнасьці ў гэтай галіне, шырока выкрываючы клясавую сутнасьць гэтых спраў, спробы, прыёмы і формы, якія ўжывае нэпман у горадзе і кулак на вёсцы ў лютым супраціўленьні сацыялістычнаму будаўніцтву. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на самае хуткае прахожданьне гэтых спраў, па якіх суд павінен дзейнічаць як самае вострае аружжа пралетарскай дыктатуры, а таксама на разгляд спраў аб скарыстаньні варожымі элемэнтамі легальных форм правядзеньня сваіх варожых соцыялістычнай дзяржаве мэтаў, як скарыстаньне капярацыі, дзяржаўнага апарату, прапаўзаньне ў арцелі, стварэньне ілжэкапяратываў і г.д.

Для ажыцьцяўленьня важнэйшых задач па сацыялістычнаму спаборніцтву, хлебазагатоўчай, падатковай, пасеўнай кампаніях і г. д,—органы юстыцыі павінны жорстка караць тых, хто сьвядома ўхіляецца ці перашкаджае

пасьпяховаму ажыцьцяўленьню гэтых задач, невыканаўцаў законаў і мерапрыемстваў савецкай улады.

8. З боку органаў РСІ і НКЮ за апошні час праведзены шэраг мерапрыемстваў па рацыяналізацыі судовага апарату і спрашчэньню судовага працэсу. Аднак, з прычыны маючых месца зьявішч маруднага афармленьня іх у законадаўчым парадку,— Пленум ЦКК прапануе НКЮ прыняць меры да больш хуткага ажыцьцяўленьня прапаноў па спрашчэньню апарату і набліжэньню яго да насельніцтва і на падставе правадзімай зараз рэарганізацыі Віцебскай акругі вывучыць і распрацаваць пытаньне пра далейшае спрашчэньне судова-сьледчага апарату, уздымаючы яго якасьць і працаздольнасьць. З пытаньняў па спрашчэньню апарату, якія да гэтага часу атрымалі адмоўнае вырашэньне, Пленум ЦКК лічыць неабходным узьняць зноў пытаньне аб пераглядзе апарату судвыкананьня, для якой мэты пленум ЦКК даручае НКЮ сумесна з РСІ разглядзець гэтае пытаньне ў самы бліжэйшы тэрмін і ўнесьці яго ў НК РСІ СССР.

Арганізаваныя з мінулага году, у якасьці вопыту, таварыскія і сельскія суды наблізілі суд да насельніцтва, уцягнулі ў справу юстыцыі вялікія пласты працоўных, чаму Пленум ЦКК, улічваючы станоўчы вопыт гэтых нізавых судоў, прапануе зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі закону і арганізацыі гэтых судоў паўсямесна, адначасова павялічыўшы іх кампэтэнцыю і падсуднасьць, разам з тым узмацніўшы кіраўніцтва і жывую сувязь з народным судом і надаўшы яму большыя правы.

Адзначаючы мэтазгоднасьць рэарганізацыі судова-зямельных органаў у сэнсе перадачы вядомай часткі спрэчных зямельна-судовых спраў судовым органам, што дасьць магчымасьць разгрузкі зямельных органаў ад судовых спраў і накіруе іх галоўную ўвагу на задачы рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і калектывізацыі,—Пленум ЦКК даручае НКЮ і НКЗ сумесна з НК РСІ распрацаваць адпаведнае палажэньне і прыняць захады да падрыхтоўкі той часткі апарату, на якую павінна быць ускладзена вырашэньне ўсіх зямельных судовых спраў, і з тым, каб гэтая рэарганізацыя атрымала належнае законадаўчае афармленьне ў зямельным кодэксу.

9. Ня гледзячы на тое, што роля пракуратуры ў справе вывучэньня стану злачыннасьці і наогул па папярэджаньню яе і недахопаў у дзейнасьці дзяржапарату—зьяўляецца важнейшай задачай органаў пракуратуры,— гэтая галіна па ранейшаму застаецца нездавальняюча пастаўленай як у выніку нездавальняючай пастаноўкі аперацыйнай статыстыкі органаў ЦСУ, так і ў выніку недастатковай увагі гэтай важнейшай справе.

Пленум ЦКК першай задачай ставіць далейшае падвышэньне аўтарытэту пракуратуры ў справе папярэджаньня і сыгналізацыі партыі і сав. органаў аб небясьпечных зьявішчах у паасобных частках апарату, паграджаючых разлажэньнем і выкрыўленьнем клясавай лініі, што патрабуе рашучай барацьбы супроць фармальных мэтадаў працы судова-сьледчага апарату, за сыстэматычнае вывучэньне стану злачыннасьці па асобным галінам, раёнам і г. д., практыкаваньня нарад па злачыннасьці, вывучэньня скаргаў працоўных сумесна з КК—РСІ, пашырэньня практыкі прыватных і асобых азначэньняў, у прыватнасьці ў парадку садзейнічаньня чыстцы сав. апарату, унясеньня судом і пракуратурай канкрэтных прапаноў у КК—РСІ і кіруючыя органы па найбольш важных справах, у асаблівасьці па гаспадарчым і пасадавым злачынствам і г. д. Пры гэтым існуючая сыстэма вядзеньня апэрацыйнай статыстыкі, як незабясьпечваючая гэтую галіну працы органаў юстыцыі,—падлягае тэрміноваму перагляду.

10. Значным недахопам, які зачастую абясцэньвае і дыскрэдытуе дзейнасьць суду, зьяўляецца вельмі нездавальняючая рэалізацыя прысудаў у выніку адсутнасьці правільнай арганізацыі прымусовых работ, датэрміновага вызваленьня і г. д. У гэтым напрамку не паслабляючы мер узьдзейнічаньня на клясава-чужды элемэнт, у адносінах да працоўных, выпадкова стаўшых на той альбо іншы шлях злачыннасьці, асабліва пры нязначнасьці іх злачынства,—неабходна ўжываць шырэй меры выхаваўчага парадку замест зьняволеньня, г. зн. папярэджаньне, ганьбаваньне, прымусовыя працы, зьняцьце з пасады і г. д.; працоўным замяняць пазбаўленьне волі да 6-ці месяцаў прымусовымі працамі наогул; вывучыць магчымасьць адмаўленьня ад каротка-тэрміновага пазбаўленьня волі да аднаго году, замяняючы зьняволеньне інш. мерамі сацыяльнай абароны.

Разам з гэтым трэба абавязаць НКУС і Выканкомы безадкладна правесьці ўсе патрэбныя мерапрыемствы па арганізацыі прымусовых работ, устанавіўшы суровую адказнасьць за гэта суадпаведных пасадавых асоб. Прэзыдыуму ЦКК праз 3 месяцы заслухаць даклад НКУС і садаклад НКЮ аб ужытых захадах да ажыцьцяўленьня гэтай пастановы.

11. Адзначаючы значную працу суда ў барацьбе з антысэмітызмам і інш. праявамі шовінізму,—Пленум ЦКК лічыць, што судова-сьледчыя органы павінны весьці жорсткую барацьбу з праявамі шовінізму і антысэмітызму больш дасканалымі спосабамі ў тым сэнсе, каб прыцягваць да адказнасьці ня толькі канкрэтнага насіцеля і выканаўцу шовіністычных і антысэміцкіх учынкаў, а таксама і натхніцеля і кіраўніка гэтай справы, адначасова накіроўваючы агонь па асобам, якія праяўляюць недапушчальна-прымірэнчыя адносіны да шовінізму—гэтай аднэй з форм контр-рэволюцыі. Пры гэтым Пленум ЦКК прапануе ўсім масавым арганізацыям узмацніць барацьбу за інтэрнацыянальнае выхаваньне мас, што зьяўляецца галоўным сродкам зьнішчэньня ганебных зьявішч антысэмітызму і шовінізму і без чаго судовыя меры барацьбы будуць зьяўляцца недастатковымі.

12. Адзначаючы, як істотны недахоп у рабоце суду тое, што працоўныя справы раз-

глядаюцца з недастатковай хуткасьцю і па ім у шэрагу выпадкаў ня прымаюцца дастаткова жорсткія меры ў адносінах парушыцеляў працоўнага заканадаўства,—Пленум ЦКК прапануе НКЮ забясьпечыць правільнае праходжаньне гэтых спраў і ўзбуджэньне ў належных выпадках супроць вінаватых крымінальнага прасьледваньня „ня гледзячы на асобы“ з ускладаньнем матар'яльнай адказнасьці на асоб, дапусьціўшых парушэньні працоўнага заканадаўства.

З прычыны таго, што інтарэсы батрацтва яўна недастаткова ахоўваюцца заклікаными да гэтага органамі (інспэкцыя працы, саюзн. органы, суд),—Пленум ЦКК прапануе НКЮ прыняць меры да ўзмацненьня работы суду ў гэтым напрамку, рашуча прасьледуючы прыцягненьнем да адказнасьці службовых асоб, бязьдзейнічаючых у справе абароны батрацтва і барацьбы з эксплёататарам—кулаком; АКК—РСІ сумесна з органамі пракуратуры арганізаваць сыстэматычную праверку работы інспэкцыі працы ў гэтай галіне.

13. Ня гледзячы на жорсткую барацьбу судовых органаў, налічча ўсё яшчэ непамяншаючыхся растрат, як аднаго з відаў злачыннасьці, якое падрывае нашае сацыялістычнае будаўніцтва, зараз ставіць пытаньне аб рашучым прыцягненьні да барацьбы з растратамі савецкіх і гаспадарчых установ, з боку якіх наглядаецца часта няпрыняцьце элемэнтарных мер да выкрыцьця і папярэджаньня растрат.

Пленум ЦКК катэгарычна прапануе кіраўніком усіх установ і прадпрыемстваў самім ужываць усе неабходныя крокі да выкрыцьця і папярэджаньня растрат; органам-жа юстыцыі ў далейшым пры правядзеньні сьледзтва па растратах абавязкова прыцягваць да адказнасьці ня толькі непасрэдных удзельнікаў растраты, а таксама кіраўнікоў і рэўкамісіі, нядбайнасьць якіх і няпрыняцьце належных мер ствараюць спрыяючыя ўмовы для растраты. Пленум ЦКК зварочвае ўвагу АКК—РСІ, Выканкомаў саветаў, каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый на неабходнасьць ажыўленьня працы рэв. камісій і рашучай барацьбы са зьявішчамі іх бязьдзейнічаньня, мэханічнага „штампаваньня“ і павярхоўнай рэвізійнай работы.

14. Разглядаючы сваячасовае судовае вырашэньне перададзеных КК—РСІ ў судовасьледчыя органы спраў аб найбольш яскравых і грубых праявах бюрократызу і аб іншых недахопах дзяржапарату і яго службовых асоб, як важнейшую задачу дзейственай і рэальнай барацьбы з бюрократычнымі скажэньнямі апарату—Пленум ЦКК на падставе шэрагу праверак праходжаньня гэтых спраў лічыць выкананьне гэтай задачы судовасьледчымі органамі большай часткай яўна нездавальняючым, з прычыны наглядаючайся недапусьцімай валакіты, змазваючай грамадзкае значэньне гэтых спраў, недавучоту і нядбайных адносін да сьледчага афармленьня матар'ялаў абсьледваньняў РСІ, выхалашчваньня іх палітычнага сэнсу і нават фактычнага зьместу. Пленум ЦКК папярэджвае органы пракуратуры, што падобныя адносіны ў шэрагу мейсц да спраў, узбуджаемых РСІ, у далейшым будуць разглядацца, як праява, супраціўленьня мерапрыемствам барацьбы з бюрократызмам з усімі выцякаючымі вынікамі і даручае НКЮ, Прэзыдыуму ЦКК і АКК прыняць меры да зьнішчэньня гэтых зьявішч у далейшым.

15. Улічваючы некаторае адставаньне заканадаўства ад шпаркага тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва, адзначаючы шматлікасьць і раскіданасьць яго, а ў сувязі з гэтым затрудненасьць карыстаньня ім ня толькі для працоўнага насельніцтва, а нават і для саміх судова-сьледчых працаўнікоў, асабліва з ліку вылучэнцаў,—Пленум ЦКК прапануе НКЮ паскорыць тэмп перагляду законаў, у прыватнасьці грамадзянскага кодэксу і адмін. кодэксу; НКЮ і Белдзяржвыдавецтву павялічыць выданьне юрыдычнай літаратуры для шырокіх колаў насельніцтва; наладзіць штогоднюю кодыфікацыю заканадаўства БССР. Побач з гэтым, органы пракуратуры павінны ў большай і лепшай форме, чым раней, праводзіць працу па зьмене і перагляду тых ці іншых законаў з пункту погляду іх несуадпаведнасьці запросам мас і клясавай лініі партыі.

# З АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ МЕЙСЦ.

## Слабыя бакі работы па вярбоўцы ў партыю.

*(З практыкі Віцебскае арганізацыі).*

Пэрыяд рэконструкцыі народнае гаспадаркі, масавае колектывізацыі—патрабуе значна большага ўцягненьня ў нашу партыю перадавых колаў рабочае клясы, батрацтва і с.-г. рабочых. Рашучае выкарчоўваньне рэшткаў капіталізму, жорсткае супраціўленьне апошніх, налічча цяжкасьцяй соцыялістычнага будаўніцтва,—усё гэта патрабуе такога складу парторганізацыі, які забясьпечыў-бы правядзеньне ленінскае лініі нашае партыі, рашучую барацьбу з усялякімі ўхіламі ад гэтае лініі.

У гэты пэрыяд пытаньні вярбоўкі рабочых у партыю, палепшаньне яе якаснага складу — павінны стаць першачарговымі задачамі парторганізацый.

Як мы, ва ўмовых Віцебскае арганізацыі, якая мае вялікія пралетарскія кадры (да 20 тысяч рабочых у вакрузе)—спраўляемся з гэтай задачай. Аналіз работы парторганізацыі за 3 кварталы 1929 г. і колькасныя вынікі росту гавораць, што ў нас на гэтым вучастку работы далёка ня ўсё добра. За гэты пэрыяд парторганізацыя, якая налічвала к студзеню месяцу 1929 г.— 4600 членаў і кандыдатаў партыі, узрасла на 357 асоб, з якіх 325 або 90 з лішнім процантаў, рабочых, 21 селянін і 11 служачых. Прычым, некаторыя вытворчыя ячэйкі даюць зусім нязначны ўзрост: 1—2—3 чалавекі.

У чым тут асноўная бяда, дзе прычыны такіх нездавальняючых вынікаў вярбоўкі ў партыю. Мы лічым (на падставе вывучэньня гэтага пытаньня), што асноўнай прычынай слабога росту зьяўляецца недастатковая ўвага ўсяе (зьверху да нізу) парторганізацыі пытаньням вярбоўкі рабочых у партыю. Акругком хаця і даваў неаднакратныя дырэктывы, заслухоўваў даклады, прымацоўваў да асобных прадпрыёмстваў для ўзмацненьня вярбовачнае работы адказных працаўнікоў, але не праводзіў дакладнае праверкі выкананьня сваіх дырэктыў, апошнія часта насілі агульны характар, без дыфэрэнцыяцыі падыходу да розных прадпрыёмстваў, да розных груп рабочых. Акругком недастаткова падкрэсьліваў пытаньні росту на пленумах, на актыве парторганізацыі. Райкомы ў большасьці дубліравалі дырэктывы АК, не конкрэтызуючы іх, зусім недастаткава аказвалі практычнае дапамогі ячэйкам на мясцох у справе вярбоўкі рабочых. Значная частка ячэек не даацаніла сур'ёзнасьці задачы росту.

Ёсьць ячэйкі, якія на працягу году не абмяркоўвалі пытаньняў росту, ня гледзячы на зусім конкрэтныя паказаньні XII зьезду КП(б)Б па гэтаму пытаньню. Ёсьць выпадкі, калі агульны сход ячэйкі слухае даклад аб вярбоўцы, даручае бюро ячэйкі распрацаваць практычныя мерапрыемствы па гэтаму пытаньню, бюро ячэйкі на працягу доўгіх месяцаў „зьбіраецца" распрацоўваць мерапрыемствы, а ячэйка, як і раней, нічога ня робіць па вярбоўцы рабочых у партыю. Большасьць ячэек, прапрацоўваючы пытаньні росту, выносіць агульныя, не конкрэтныя, нікога нічым не абавязваючыя пастановы. Вось абразчык гэтых зусім некарысных пастаноў:

> **„Агульны сход лічыць, што ў ячэйцы недастаткова праведзена работа па ўцягненьню рабочых у партыю, а пагэтаму сход лічыць неабходным узмацніць масавую работу сярод рабочых і ўцягнуць лепшых рабочых у партыю" (пастанова агульнага сходу ячэйкі Комтрэсту, ад 13-IV—29 г., пратакол № 8, па дакладу аб росьце партыі. г. Віцебск).**

Як узмацніць масавую работу, як уцягнуць лепшых рабочых у партыю, што конкрэтна для гэтага патрэбна зрабіць, каму што даручыць, што павінен рабіць член ячэйкі, ў сувязі з гэтай пастановай. Ні на адно з гэтых пытаньняў пастанова ячэйкі не дае ніякага адказу і зразумела справа з практычнай работай па вярбоўцы ў гэтай ячэйцы, „а воз і ныне там". Агульны сход чыгуначнае ячэйкі ст. Гарадок, заслухаўшы даклад аб росьце ячэйкі і ўцягненьні рабочых ў партыю пастанавіў:

> **„Даручыць бюро ячэйкі выясьніць прычыны слабога прытоку і ў далейшай рабоце ўзяць курс — на разгортваньне работы па вярбоўцы лепшае часткі рабочых у партыю".**

Бюро да гэтае пары вывучае прычыны, ячэйка „бярэ курс", а конкрэтнае справы няма. Гэтыя „пастановы" зьяўляюцца далёка не адзінічнымі.

Трэба рашуча зьмяніць, перабудаваць мэтады кіраўніцтва і работы па вярбоўцы рабочых у партыю (як і па многім іншым галінам партработы). Замест „паглыбіць, узяць курс" і г. д.—рашэньні ячэек павінны быць конкрэтнымі, ускладаючымі на ячэйку і асобных яе чле-

наў практычныя задачы з вызначэньнем, каму, што і як зрабіць.

Толькі такія рашэньні дапамогуць ячэйкам ажыцьцяўляць дырэктывы партыі. Партыйныя камітэты павінны больш правяраць свае дырэктывы і практычна дапамагаць ячэйкам у іх ажыцьцяўленьні.

Другой прычынай слабога росту зьяўляецца нездавальняючая масавая работа на прадпрыемствах, непрыстасаванасьць яе да задач вярбоўкі. Партячэйкі ня ведаюць складу рабочых, не прыстасоўваюць масавую работу да запытаньняў розных груп рабочых (старыя кадры, работніцы, малапісьменныя, актыў, маючыя сувязь з вёскай і г. д.). Адчыненыя сходы ячэек слаба падрыхтоўваюцца, у іх парадак дню ставяцца часта не злабадneўныя, ня цікавячыя беспартыйных рабочых пытаньні; рабочыя дрэнна паведамляюцца аб часе і мейсцы адчыненага сходу ячэйкі, беспартыйныя ня ўцягваюцца ў практычную работу ячэйкі,— у выніку зусім нязначнае наведваньне рабочымі партсходаў.

А гэта-ж першы і неабходны этап для ўцягненьня рабочага ў партыю. Мясцовы друк—насьценныя, друкаваныя заводзкія і фабрычныя газэты, „Віцебскі Пролетары“—амаль зусім не скарыстоўваюцца ў справе вярбоўкі рабочых у партыю. А самыя простыя рэчы, як апавяшчэньне прозьвішчаў аб уступленьні ў партыю рабочых, вытрымкі з іх біографій, зьмяшчэньне фотографій некаторых уступаючых, асьвятленьне гэтага пытаньня ў яго прынцыповай пастаноўцы— павінны адыграць вялікую ролю ў рабоце вярбоўкі. Дрэнна наладжана работа з беспартыйным актывам (нарады, гурткі), індывідуальная апрацоўка.

Ня менш сур'ёзнае значэньне ў справе вярбоўкі лепшых рабочых у партыю маюць „паводзіны“ комуністага-рабочага ў цэху. Калі комуністыя на прадпрыемстве не зьяўляюцца перадавікамі, ініцыятарамі, прыкладнымі, як у грамадзкай, так і ў вытворчай рабоце, дык яны служаць элемэнтамі не прыцяжэньня лепшага рабочага ў партыю, а наадварот, адштурхоўваюць ад партыі.

Між тым, маецца шэраг выпадкаў, калі рабочы-комуністы дыскрэдытуе сябе на прадпрыемстве, зусім пасыўны, пляцецца ў хвасьце мас, недысцыплініраваны, ня толькі не падтрымоўвае ініцыятыву беспартыйных, але супроцьдзейнічае яе ажыцьцяўленьню. Прыклад. Пры абмеркаваньні дагавору соцыялістычнага спаборніцтва на „Мэтпроме“ № 1 беспартыйны рабочы ўнёс дадатак аб зьніжэньні расцэнак на 10%, а комуністы выступілі супроць гэтае прапановы, назваўшы „падхалімам“ беспартыйнага. *Горш за ўсё тое, што ячэйкі недастаткова жорстка, ня масава асуджаюць гэтыя антыпартыйныя зьявішчы, недастаткова разгортваюць крытыку і самакрытыку вакол усяе партыйнае работы.*

Ня выконваюцца дырэктывы партыі аб палепшаньні тэхнікі, зьнішчэньні лішковае валакіты пры афармленьні ўступаючых у партыю. На гэтыя прычыны ў большасьці выпадкаў паказваюць і беспартыйныя рабочыя, мотывіруючы сваё няўступленьне ў партыю.

Зусім слабым мейсцам работы па вярбоўцы ў партыю і конкрэтныя вынікі па вярбоўцы батракоў і с-г. рабочых. За 9 месяцаў прынята 14 батракоў і 21 с.-г. рабочы. Частка райкомаў і сельячэек і да гэтае пары не дааціла ўсяе сур'ёзнасьці гэтае задачы. У некаторых раёнах (Віцебск, Лёзна, Мяжа) з наліччам значнае колькасьці батрацтва прынята па 1 батраку за 9 месяцаў. Ёсьць і гэткія раёны, якія ня прынялі ніводнага батрака, ні с.-г. рабочага. У рашэньнях многіх ячэек па пытаньням росту ніводнага слова не говорыцца аб вярбоўцы батракоў у партыю. Уся работа з батрацтвам праводзіцца нездавальняюча. У некаторых мясцох нават няма вучоту батракоў, яны ня ўцягнуты ў грамадзкую работу, у сыстэму агульнае і партыйнае асьветы. Ня ўлічаны і не скарыстоўваюцца да-

даволі вялікія кадры батрацкае моладзі, ахопленыя камсамолам (у складзе камсамольскае організацыі знаходзіцца 700 чалавек батракоў); зусім недастатковы, далёка ня вычэрпываючы маючыхся магчымасьцяй, рост за кошт камсамолу наогул: прынята ўсяго камсамольцаў 91 чалавек (26% у агульным складзе прынятых), у той час, калі ў камсамоле да 4 тысяч рабочае моладзі.

Вось у асноўным слабыя бакі работы па вярбоўцы рабочых у партыю. На іх выпраўленьне, на рашучы пералом усяе работы па росту, па рэгуляваньню соцыяльнага складу неабходна зьвярнуць увагу ўсяе парторганізацыі.

**А. Чарнышэвіч.**

# ШЫРЭЙ РАЗГОРНЕМ ПАРТВУЧОБУ.

## Некалькі заўваг да пытаньня парт. самаадукацыі

У рэзалюцыі верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу „Аб папярэдніх выніках чысткі...“ указана, што поруч з дадатнымі бакамі, выяўленымі пры праверцы і чыстцы кіруючых кадраў КП(б)Б, „праверка выявіла—таксама—і тое, што частка кіруючых кадраў не ўладае належнаю марксыцка-ленінскаю падрыхтоўкаю, ня ўмее як сьлед правільна разьбірацца ва ўсіх пытаньнях партыйнае палітыкі і правільна орыентаваць масы“. Гэта зьяўляецца вынікам таго, што да апошняга часу недаацэньвалі значэньня партыйнай асьветы ў агульнай сыстэме работы партыі над бальшавіцкай загартаванасьцю сваіх шэрагаў. Існаваў погляд на партвучобу, як на справу другарадную, якою „некалі“ займацца ў суталацы чарговых гаспадарчых, савецкіх і інш. спраў. Перашкодаю ў справе тэорэтычнага падвышэньня кваліфікацыі парт. актыву таксама зьяўляецца і тое, што паасобнымі партыйнымі організацыямі не ствараюцца належныя ўмовы для вучобы партыйнага актыву.

Калі радавыя партыйцы і нізавы актыў могуць наведваць партшколы, альбо гурткі, то значная частка раённага, акруговага і цэнтральнага актыву часта ня могуць гэтым карыстацца, дзякуючы ўмовам сваёй працы (камандыроўкі, частыя неабходныя пасяджэньні і г. д.).

Але-ж гэта не гаворыць аб тым, што гэтая частка актыву не павінна займацца грунтоўным вывучэньнем марксыцка-ленінскай тэорыі, вывучэньнем штодзеннай палітыкі і практыкі нашай камуністычнай партыі, быць у курсе актуальных задач сучаснага, надзвычайна складанага пэрыяду сацыялістычнага будаўніцтва.

Гэтая частка партактыву павінна карыстацца мэтадамі самаадукацыі і сыстэмаю завочнага навучаньня. На гэта партыяй ужо даўно і асабліва ў апошні час зьвернута вялікая ўвага. У рэзалюцыі ЦК УсеКП па пытаньню „аб сыстэме тэорэтычнай перападрыхтоўкі партыйнага і камсамольскога актыву“—сказана наступнае: „Сыстэматычная самастойная работа над падвышэньнем свайго тэорэтычнага ўзроўню павінна зьявіцца важнейшым **абавязкам** усяго партыйнага актыву і асабліва кожнага камуністага, які вядзе кіруючую работу“. І далей: „Побач з пашырэньнем сеткі партасьветы і спэцыяльных курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі партактыву неабходна зьвярнуць асобную ўвагу на рашучае разгортваньне сеткі вячэрніх С.П.Ш., камвузаў, курсаў марксызму, а таксама ўсяе сыстэмы **завочнага навучаньня** і індывідуальнай самаадукацыі...“

Наша партыя і Савецкая ўлада стаіць зараз перад вырашэньнем

вялікай надзвычайна важнай праблемы—аб кадрах. Іх не хапае ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Гэты недахоп трэба папоўніць за лік рабочых і работніц з фабрык і заводаў, за лік батрацтва і с.-гас. рабочых.

Стварыць кадры для нашага сучаснага будаўніцтва справа ня лёгкая, але-ж іх трэба стварыць, пры чым такім тэмпам, які-б адпавядаў шпаркаму тэмпу будаўніцтва нашае гаспадаркі і культуры, узятаму пяцігодкай. Сетка школ, ВУЗ'аў і іншых навучальных установ, якія займаюцца справаю падрыхтоўкі кадраў, яшчэ не адпавядае запатрабаваньням будаўніцтва рэканструкцыйнага пэрыяду і ў бліжэйшы час ня справяцца з вырашэньнем гэтай надзвычайна важнай задачы. І вось сродкам дапамогі ў гэтай справе павінна таксама заняць асобнае месца—завочнае навучаньне і самаадукацыя партыйнага актыву.

У справе завочнага навучаньня на сучасны момант мы маем вельмі ненармальнае становішча. Гэта заключаецца ў тым, што таварышы, залічаныя студэнтамі завочных Камвузаў, не займаюцца. Калі разглядзець лічбы па аднаму толькі Ленінградзкаму завочнаму Камвузу, то ўбачым наступны, зусім недапушчальны малюнак:

| Залічана студ. ад КП(б)Б у 1928 г. | З іх | | Выканалі і адаслалі | | | | | | | | | | Скончыла першы курс | Перашкоды ў занятках | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Працягваюць заняткі | Пакінулі займацца | 1 заданьне | 2 „ | 3 „ | 4 „ | 5 „ | 7 „ | 8 „ | 9 „ | 10 „ | Ніводнага заданьня | | Перагрузка | Адсутнасьць літаратуры | Хвароба | Ня ўказана прычын |
| 38 | 2 | 36 | 7 | 6 | 5 | 1 | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 10 | 2 | 3 | 4 | 4 | 27 |
| У %% | 5,5 | 95,0 | 18,3 | 15,6 | 13,0 | 2,6 | 2.6 | 5.5 | 2,6 | 5,5 | 2,6 | 26,2 | 5,5 | 7,9 | 10,5 | 10,5 | 71.1 |

Гэтыя 38 таварышоў складаюцца з раённага і ячэйковага актыву. Гэта таварышы, якія штодзенна праводзяць у жыцьцё палітыку нашай партыі, гэта тыя, якім трэба добра разьбірацца ў тых трудных складаных умовах сучаснага пэрыоду, каб з усёй бальшавіцкай цьвёрдасьцю і настойлівасьцю праводзіць на справе правільную клясавую лінію ў рабоце. А што ж мы бачым з прыведзеных лічбаў—95% перасталі займацца, толькі 2 таварышы працягваюць заняткі. Гэта недапушчальнае зьявішча. Такое становішча наглядаецца і па другіх завочных навучальных установах.

Зараз партыяй пастаўлена пытаньне так, што ўхіленьне ад марксыцка-ленінскай вучобы будзе разглядацца, як пар шэньне партыйнай дырэктывы. (ЦВ „Правда" ад 15/IX 29 г. № 213/4347). Гэта павінен запамятаць кожны партыец, пачынаючы ад займаючага адказьнейшую пасаду да самага радавога. Аб гэтым, таксама павінны ведаць і парторганізацыі, каб стварыць партыйцу належныя ўмовы для працы над сабою, а для тых, хто займаецца завочна, даць магчымасьць скарыстаць вызначаныя 8 гадзін у тыдзень для работы над сваёй самаадукацыяй.

З паказаных лічбаў па Ленінградзкаму Камвузу, таксама бачым, што 10,5% перасталі займацца таму, што ня маюць належнай літаратуры. Гэта таксама адно з балючых мейсц вучобы партактыву, з чым партыйным організацыям неадкладна трэба павесьці рашучую барацьбу.

У справе забясьпечаньня партыйнага актыву належнай літаратурай, а таксама ў кіраваньні вучобай індывідуалаў, якія не ахоплены сыстэмай завочнага навучаньня, галоўную ролю павінны адыграць

раённыя і акруговыя партыйныя АПА габінэты. Да гэтага часу нельга сказаць, што АПА габінэты справіліся з гэтай задачай, якая іх непасрэдна датычыцца. Калі да прыкладу возьмем цэнтральны АПА габінэт у Менску, які павінен быў-бы здаецца быць паказальным для ўсіх астатніх габінэтаў, то мы ўбачым такое зьявішча. Ня гледзячы на тое, што ён знаходзіцца пры такой вялікай і добрай бібліатэцы, як Дому Партасьветы (б. клюб К. Маркса), патрэбную кніжку часта знайсьці нельга. Літаратура, якая там маецца, знаходзіцца ў нейкім бязладзьдзі. Трэба перавярнуць цэлую сотню кніжак таго ці іншага аддзелу, пакуль знойдзеш патрэбную. Мяйсцовых-жа матар'ялаў там недастаткова, а некаторых зусім няма.

Праца АПА габінэтаў павінна быць пастаўлена так, каб наведвальнік нашоў заўсёды вусны адказ на запытаньні, якія сам ня здолеў вырашыць, каб там былі мяйсцовыя матар'ялы па ўсіх галінах працы, каб заўсёды была літаратура па ўсіх пытаньнях, асабліва політыкі бягучага моманту, каб партыец знайшоў там мейсца і для таго, каб папрацаваць.

АПА габінэты павінны зараз-жа, неадкладна паставіць рашуча пытаньне перад партыйнымі камітэтамі аб забесьпячэньні іх кіраўнікамі для завочнікаў і таварышоў, якія займаюцца самаадукацыяй. Часта кіраваньне завочнікамі з боку завочных Камвузаў і саўпартшкол не здавальняе завочнікаў, трэба ім дапамагчы на мейсцы. Самаадукацыяй у большасьці займаюцца таварышы наогул больш падрыхтаваныя, але-ж і ў іх трапляюцца месьціны, дзе ня здолеюць самі разабрацца і патрабуюць сталай дапамогі з боку больш адукаванага і сьвядомага таварыша.

АПА габінэты павінны быць поўнасьцю забясьпечаны такімі кіраўнікамі, каб з-за гэтага вучоба таго альбо іншага партыйца не сарвалася. Партыйным камітэтам у зьвязку з тым, што навучальны год пачаўся, пытаньне аб кіраўніках для АПА габінэтаў павінна зараз-жа вырашыцца, як першачарговая задача.

У тых мяйсцох, дзе АПА габінэтаў няма і ёсьць, бязумоўна, кадр партыйцаў, якія патрабуюць кіраўніцтва ў сваёй вучобе,—партыйным камітэтам неабходна хутчэй знайсьці шляхі здавальненьня запатрабаваньням партыйцам у іх навучаньні, ці шляхам запрашэньня кіраўнікоў з цэнтру, у вызначаны дзень і час, ці вызначэньнем больш сьвядомых, карыстаючыхся належным аўтарытэтам таварышоў на мейсцы, але-ж каб усялякая форма партвучобы была забясьпечана належнымі кіраўнікамі.

Часта вызначаюць такіх кіраўнікоў, альбо консультантаў, якія маюць шмат іншых нагрузак, што перашкаджае добраякаснай падрыхтоўцы іх саміх.

Бывае і так, асабліва гэта наглядаецца сярод вызначаных консультантаў—навуковых працаўнікоў, якія залішне нагружаюць самі сябе платнай работай, а на справу па кіраўніцтву вучобаю іншых таварышоў глядзяць як на пабочную справу, у выніку чаго маем пропускі ў занятках з боку такіх кіраўнікоў і, ня гледзячы на тое, што яны навуковыя працаўнікі, іх дапамога зьяўляецца нездавальняючай. Такіх кіраўнікоў трэба папярэджваць, і ў кожным паасобным выпадку прыцягваць да партыйнай адказнасьці.

Яшчэ адно вельмі важнае пытаньне павінна быць пастаўлена і вырашана зараз-жа АПА габінэтамі—гэта пытаньне аб абслугоўваньні зьменных рабочых. Сярод іх таксама ёсьць завочнікі і таварышы, якія займаюцца самаадукацыяй і патрабуюць дапамогі і ўказаньняў з боку кіраўніка па таму ці іншаму пытаньню. Пры цяперашняй пастаноўцы работы АПА габінэтаў, якія працуюць толькі па вечарох,—т. т., якія ў гэты час якраз заняты на вытворчасьці, ня маюць магчымасьці карыстацца дапамогаю АПА габінэтаў. З урэгуляваньнем гэтага пытаньня трэба пасьпяшацца.

Хоць і нязначная справа, але-ж вялікую ролю ў сыстэме партыйнай асьветы адыгрывае і адбор кандыдатаў у адпаведныя навучальныя ўстановы. Пры адборы таварышоў у завочныя навучальныя ўстановы, таксама як і ў пасылцы ў асноўныя Камвузы, савпартшколы і інш. на мясцох да гэтага часу няма ніякай сыстэмы. Існуе, так званы, самацёк, аб зьнішчэньні якога ўжо даўно было ўказана вышэйстаячымі парторганамі. Партарганізацыямі на мясцох не ў належнай меры інфармуецца партыйны актыў аб тэй ці іншай навучальнай установе ў час, калі падбіраюцца кандыдатуры для запаўненьня прадстаўленых мейсц. Да гэтага часу набіраецца кантынгент таварышоў, які не падыходзіць да данай установы. У выніку такой працы на месцох, шмат каму з рэкамэндаваных т. т. адмаўляюць мандатныя камісіі Камвузаў у прыёме.

У далейшым ад такога мэтаду набору ў партыйныя навучальныя ўстановы трэба рашуча адмовіцца. Канчаткова перайсьці на мэтад індывідуальнага набору, высоўваючы на вучобу падхадзячых таварышоў. Пры такім мэтадзе напэўна будуць запаўняцца ўсе прадастаўленыя мейсцы, а таксама больш забясьпечым жаночую частку партыйнага актыву марксыцка-ленінскай вучобай. Да гэтага часу вельмі мала жанчынпартыек пасылалі на вучобу і не дапушчальна мала яны ўцягнуты ў сыстэму завочнага вышэйшага і сярэдняга навучаньня.

Трэба скарыстаць усё, што прадстаўляецца магчымым, каб толькі ўся партыйная маса была захоплена добраякаснай партыйнай марксыцка-ленінскай вучобай. Гэта ёсьць адзін з сродкаў падрыхтоўкі кадраў, у якіх зараз патрэба адчуваецца ва ўсіх галінах сучаснага соцыялістычнага будаўніцтва. Праблема кадраў на сёнешні дзень ёсьць адна з важнейшых партыйных задач.

Партыйная вучоба ёсьць таксама адна з важнейшых умоў для яшчэ большага разгортваньня ўнутрыпартыйнай дэмократыі і самакрытыкі ў жыцьці партыі ва ўсёй масавай рабоце. Партыйная марксыцка-ленінская вучоба дапамагае партыйцу ў справе барацьбы з усялякімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі. Партасьвета падвышае ідэёва-палітычны ўзровень партыі, што зьяўляецца важнейшым фактарам у справе росту актыўнасьці партыйнай масы.

**Нозік Л. І.**

# ПА АКРУГОВЫХ А. П. А.

## Гомельскі АК.

Падрыхтоўка да камплектаваньня партыйных школ і папулярызацыя партасьветы праводзілася наступным чынам: праведзен трохтыднёвік у дапамогу партвучобе. Пытаньні партасьветы шырока асьвятляліся на раённых, сходах партыйных калектываў і цэхавых ячэек. На сходы прыцягваўся шырокі беспартыйны актыў. Сходы па пытаньню партасьветы таксама праводзіліся і па лініі фабрычна заводзкіх і мясцовых камітэтаў. Была выпушчана сцэцыяльная газэта „За вучобу“, у якой асьвятляліся і задачы партасьветы на вёсцы. У выніку—ахоп беспартыйнай часткі батрацка-бедняцкага актыву партасьветай складае 30 проц.

Папулярызацыя завочнага навучаньня праводзілася праз плякаты, газэты і праз нарады таварышоў, якія не ахоплены вучобай у школах. АК даў указаньні раёнам, як ахапіць вучобай індывідуалаў, якія знаходзяцца ў 10 кілёмэтрах ад ячэйкі.

## Полацкі АК.

Папулярызацыя партасьветы пачалася з паловы жніўня па гораду і ў пачатку верасьня на вёсцы. На сумесных нарадах раённых АПА арганізатараў, прапагандыстых і паасобных нарадах апоргаў ячэек абгаварваліся формы і мэтады партасьветы на 1929-30 навучальны год і парадак арганізацыі камплектаваньня сеткі. Гэтыя пытаньні таксама абгаварваліся на агульных сходах рабочых і служачых у горадзе, саўгасьнікаў, калгасьнікаў, батрацтва і беднаты на вёсцы.

Акрамя гэтага АК накіраваў па ўсім ячэйкам надрукаваныя формы вучобы, якія расклейваліся на відных мясцох па некаторых

прадпрыемствах і бібліатэках, чырвоных куткох і г. д.

Арганізавана кансультацыя па пытаньням партвучобы і ў газэце „Чырвоная Полаччына"—зьмешчаны цэлы шэраг артыкулаў па пытаньням партасьветы. Ня гледзячы на ўсе гэтыя захады, у некаторых ячэйках і нават цэлых раёнах мела месца спазьненьне з пачаткам вучобы, некаторыя ячэйкі скамкалі падрыхтоўку і праводзілі работу з наскоку.

Побач з правядзеньнем у большасьці арганізацый камплектаваньня на падставе добраахвотнасьці, мелі месца выпадкі аўтаматычнага залічэньня таварышоў у форму вучобы не пажаданьні слухача, а па жаданьні старшыні вярбовачнай камісіі. Камісіі па вярбоўцы ў партшколы абіраліся на агульных сходах ячэек.

Па завочным формам партасьветы асобнай папулярызацыі не праводзілася, а скарыстоўваліся сходы ў час разгортваньня ўсяе работы па падрыхтоўцы партасьветы.

Вярбоўка актыву ў завочныя формы навучаньня яшчэ ня скончылася і будзе праводзіцца на працягу ўсяго лістапада месяца.

## Забясьпечаньне партшкол марксыцка-ленінскай літаратурай.

### Гомельскі АК.

Забясьпечаньне марксысцка-ленінскай літаратурай у горадзе абстаіць значна лепш, чым на вёсцы. У горадзе пры раённых камітэтах маюцца АПА габінэты з добра ўкамплектаванымі бібліатэкамі. На вёсцы-ж гэтага няма і АК прыходзіцца рабіць розныя камбінацыі. Лепш забясьпечаны падручнікамі і паасобнымі брашурамі тыя раёны, дзе разгорнута завочнае навучаньне (Камарын, Добруш, Авіо-брыгада), астатнія раёны акругі, асабліва вясковыя, літаратурай забясьпечаны недастаткова. АК тлумачыць гэта недахопам сродкаў.

### Полацкі АК.

Пытаньне з забясьпечаньнем літаратурай партсецы выклікае значныя цяжкасьці. Адзіная гарадзкая партыйная школа падручнікамі забясьпечана поўнасьцю, але-ж цалкам на расійскай мове. Вясковыя парт. школы да гэтага часу застаюцца без падручнікаў. Заняткі ў апошніх праводзяцца па гарадзкому падручніку, альбо па мінулагоднім матар'ялам. Для СПШ і прадметных гурткоў уся літаратура амаль падабрана, не хапае толькі палітэканоміі для двухгадовай партшколы. Усе падручнікі прыходзіцца купляць на расійскай мове. На бел. мове падручнікаў яшчэ няма.

## Дапамога АПА габінэтаў.

### Гомельскі АК.

АПА габінэтам праводзіцца сэмінары для кіраўнікоў, падбіраецца мясцовы матэрыял, галоўным чынам газэты. Праводзяцца масавыя, групавыя і індывідуальныя кансультацыі па паасобным пытаньням. АПА габінэтам распаўсюджваюцца заданьні і даюцца мэтадычныя ўказаньні.

### Полацкі АК.

Для АПА габінэту і раённых АПА куткоў закуплены марксыцка-ленінскія бібліатэкі. АПА габінэтам распрацаваны пытаньні чарговых кампаній і падбіраецца мясцовы матар'ял. Для раённых АПА куткоў разасланы прыкладныя пляны работы, на падставе якіх раённыя АПА куткі будуць разгортваць сваю работу.

## Падрыхтоўка прапагандыстых.

### Гомельскі АК.

З прапагандыстымі адзін раз у месяц праводзіцца сэмінары па мэтадычным пытаньням, з кіраўнікамі АПШ і ВПШ прапрацоўваюцца асобныя тэмы. Заняткі прапагандыстых стэнаграфуюцца, праводзяцца разборы з боку зьместу і мэтодыкі таго ці іншага пытаньня.

У пачатку верасьня праведзена інструкцыйная нарада раённых прапагандыстых па пытаньням арганізацыі партасьветы, распрацавана некалькі тэм на першы час заняткаў у школах і гуртках. Склікаліся нарады кіраўнікоў школ і гурткоў і па раёнам, дзе было пастаўлена пытаньне аб палепшаньні якасьці работы партасьветнай сеткі.

### Полацкі АК.

Летам праведзены акруговыя 6-тыднёвыя курсы перападрыхтоўкі прапагандыстых. На курсах было 50 асоб, з якіх 27 рабочых ад варштату. Курсы скончыла 48 асоб. З іх большая частка зараз скарыстоўваецца на рабоце ў нізавых школах палітграматы. Акрамя гэтага 9 таварышоў скончылі ўсебеларускія курсы прапагандыстых, якія скарыстоўваюцца на прапагандыцкай рабоце ў сярэдніх зьвеньнях партасьветы.

У якасьці намесьнікаў прапагандыстых прыцягваюцца рабочыя ад варштату.

Для кіраўніцтва прадметнымі гурткамі і вячэрнімі савпартшколамі прыцягваюцца таварышы, скончыўшыя камвузы.

Формы работы з прапагандыстымі намечаны наступныя: для гораду—працкаляктыў кіраўнікоў адзінай партшколы; мэтадычныя нарады з кіраўнікамі прадметных гурткоў і ВСПШ. Для вёскі—пэрыядычныя нарады кіраўнікоў у раённым цэнтры.

## У АПАД ЦК КП(б)Б.

2-га кастрычніка быў разасланы ліст усім АПА АК з просьбаю даслаць у ЦК весткі, якія далі-б магчымасьць выявіць становішча партыйнай асьветы па Беларусі, каб можна было-б прыняць меры для палепшаньня работы там, дзе гэта патрэбна было-б. Весткі павінны былі быць прысланы не пазьней 25 кастрычніка. Да гэтага часу вестак не даслалі наступныя акругі: Менская, Віцебская, Бабруйская, Аршанская, Магілеўская. Указаным акругам трэба пасьпяшыцца з дасылкаю адзначаных вестак.

## Аб вучобе партактыву.

**Гомельскі АК.**

У першых лічбах кастрычніка Гомельскі АК абгаварваў пытаньне аб вучобе партактыву.

АК канстатаваў, што значная частка кіруючага партактыву не ахоплена нізкімі формамі вучобы, а частка зусім ухіляецца ад гэтага.

Для складаньня навакол гэтай, досыць вялікай справы адпаведнай партыйнай думкі, АК прапанаваў Райкомам і бюро ячэек прапрацаваць на партыйна-камсамольскіх сходах пастанову ЦК УсеКП(б) па пытаньню сыстэмы тэорэтычнай падрыхтоўкі партыйнага і камсамольскага актыву.

Сакратаром ячэек даручана ўмовіцца з кожным актывістым аб формах вучобы.

АК устанавіў пастаянную сыстэму вучобы ў горадзе і ў вёсцы:

1) Завочны камвуз, з прадстаўленьнем слухачом права абіраць для прапрацоўкі асобныя дысцыпліны.

Для студэнтаў камвузу АК організуе лекцыі-конфэрэнцыі.

2) Гуртковая або індывідуальная завочная тэорэтычная падрыхтоўка па спэцыяльнасьці.

3) Вячэрнія курсы партыйных працаўнікоў у г. Гомелі.

4) Завочная савпартшкола з абавязковым вывучэньнем аднэй дысцыпліны і пытаньняў бягучай палітыкі.

5) Для актыву раённых і сельскіх мясцовасьцяй, выконваючага ўсе заданьні, утвараюцца курсы-конфэрэнцыі на 100 чалавек з тэрмінам паўтара месяцы.

Савпартшколе, Заг. партгабінэту і райкомам даручана організаваць кансультацыі для партактыву, скарыстаўшы для гэтага кіруючых і навуковых працаўнікоў-комуністых.

АК устанавіў для вучобы два дні ў тыдзень: панядзелак і пятніцу. У гэтыя дні катэгарычна забаронена праводзіць усякую партыйную і грамадзкую працу (нарады, пасяджэньні). За парушэньне гэтай пастановы накладаць партспагнаньні, як за парушэньне партдысцыпліны.

АПА даручана прасачыць за выкананьнем гэтай пастановы.

# ШТО НОВАГА Ў А. К. КП(б)Б.

## Социялістычнае спаборніцтва на прадпрыемствах.

(*Віцебская акруга*).

У справе социялістычнага спаборніцтва на прадпрыемствах Віцебскай акругі маецца шэраг недахопаў.

Пытаньне сац. спаборніцтва яшчэ да гэтага часу не атрымала належнага праламленьня ў рабоце нізавых партыйных і профэсыянальных органаў. У выніку—недастатковае кіраўніцтва, якое прывяло да падзеньня ўздыму рабочых мас у 3-м квартале. Такому зьявішчу садзейнічала яшчэ і тое, што вакол гэтага важнейшага пытаньня ня была згуртавана належная грамадзкая думка, пры адсутнасьці папулярызацыі і масавай праверкі выкананьня социялістычных дагавароў, а таксама адсутнічаньне ўзаемнай праверкі выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў.

Цэлы шэраг рабочых, асабліва новых, як адзначае АК, не ахоплены социялістычным спаборніцтвам, а інжынэрна-тэхнічны пэрсанал яшчэ да гэтага часу не займае належнага месца ў справе разгортваньня сац. спаборніцтва. Прапановы вытворчых нарад выконваюцца слаба, а па шэрагу прадпрыемстваў яшчэ да гэтага часу ня створан фонд прэміраваньня па сац. спаборніцтву лепшых рабочых.

Трэба падкрэсьліць, *што аднэй з галоўнейшых прычын непасьпяховага ходу сац. спаборніцтва зьяўляецца арганізацыйная, тэхнічная і вытворчая непадрыхтаванасьць гаспадарчых органаў: несваячасовае снабжэньне сыравінай і матар'яламі,*

*слабая падача матар'ялаў рабочым і г. д.* Ударныя-ж брыгады, як адна з лепшых форм вытворчае работы, высунутыя ў працэсе сац. спаборніцтва, недастаткова ацэнены партыйнымі і прафэсыйнымі арганізацыямі і пры адсутнасьці належнага кіраўніцтва імі апошнія, у асобных выпадках, распадаюцца.

Улічваючы ўсе гэтыя моманты, АК прапанаваў РК, ячэйкам КП(б)Б і проф. арганізацыям узмацніць кіраўніцтва сац. спаборніцтвам, штодзенна правяраючы выкананьне абавязкаў па сац. дагаворам, сыстэматычнага заслухоўваньня на РК і парткалектывах аб ходзе выкананьня дагавароў па асобным прадпрыемствам.

Апроч таго, прапанавана партячэйкам і проф. арганізацыям, на шырокіх рабочых сходах, ставіць пытаньне сац. спаборніцтва на прадпрыемстве, або ў асобным цэху, высьвятляючы station ўчыя і адмоўныя бакі ў гэтым пытаньні, завастраючы ўвагу на зьніжэньні сабекошту, палепшаньні якасьці прадукцыі, зьмяншэньні накладных выдаткаў, барацьбы з прагуламі і г. д.

Па гаспадарчай лініі павінны сваячасова і больш настойліва прымацца меры па адсоўваньню арганізацыйна - тэхнічных недахопаў у справе сац. спаборніцтва (сваячасовае снабжэньне сыравінай, матар'яламі, інструмэнтамі і г. д.).

У сувязі са скончэньнем тэрміну заключэньня дагавароў па сац. спаборніцтву, прызнана неабходным, праз вытворчыя нарады, правесьці праверку ўзятых абавязкаў, вызначыць канкрэтныя мерапрыемствы для перазаключэньня дагавароў.

У галіне культурна-масавай работы патрэбна клюбы, насьценныя і друкаваныя газэты, чырвоныя куткі, бібліатэкі і інш. поўнасьцю скарыстаць на папулярызацыю сац. спаборніцтва, абмен дасягненьнямі па цэхах, ударных брыгадах, адначасова вядучы растлумачальную работу ў такім напрамку, каб значэньне сац. спаборніцтва добра было зразумела ўсім рабочым і каб гэтаю работаю былі ахоплены самыя адсталыя слаі рабочых.

АК прызнаў неабходным пашырыць спаборніцтва паміж парткалектывамі асобных прадпрыемстваў, дзе яшчэ работа па сац. спаборніцтву знаходзіцца ў стадыі разгортваньня.

## Узмацніць кіраўніцтва ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці.

*(Менская акруга).*

Ліквідаваньне няпісьменнасьці па Менскай акрузе праводзілася слабым тэмпам. Хаця колькаснае павялічэньне ахопу няпісьменных лікпунктамі і ліку выпушчаных з іх і павялічылася ў параўнаньні з мінулым годам (летась навучалася ў акрузе 10.453 чал., а выпушчана 6050, а селёта па 15 раёнам і гораду навучалася 17540 чал., а выпушчана 9500 чал.), але-ж перспэктыўны плян ліквідацыі няпісьменнасьці ня выканан па ахопу на 7—8%, а па выпуску на 50%.

Трэба адзначыць, *што ахоп лікпунктамі і школамі малапісьменных батракоў, саўгасьнікаў і калгасьнікаў быў вельмі слабы, недастатковы ахоп беднаты і актыўнай часткі насельніцтва (дапрызыўнікоў, пераменьнікаў, дэлегатак).*

Такое зьявішча Менскі АК клясіфіцыраваў як скрыўленьне клясавай лініі ў справе ліквідаваньня няпісьменнасьці на мясцох.

У адносінах Т-ва „П.Н." патрэбна сказаць, што апошняе яшчэ да гэтага часу не заняло належнага месца ў практычнай рабоце па ліквідаваньні няпісьменнасьці і кантролю, як грамадзкая арганізацыя, а з боку партыйных савецкіх і прафэсыянальных арганізацый назіраліся няўважлівыя адносіны да справы ліквідаваньня няпісьменнасьці і да самога Т-ва „П.Н.".

Менскі АК прапанаваў усім РК узмацніць грамадзкі кантроль і кіраўніцтва ў справе ліквідацыі няпісьменнасьці *і нагрузку ў гэтай галіне работы прызнаў лічыць як партнагрузку.*

Даручана ўсім РК не пазьней 25 жніўня заслухаць даклады фракцый РВК, прафарганізацый і Райсавету Т-ва „П.Н." аб падрыхтоўцы да новага навучальнага году, скончэньню работы па складаньню тэрытарыяльных плянаў ліквідацыі няпісьменнасьці і сачыць за выкананьнем апошніх. Апроч гэтага АК вызначыў тэрміны па лініі КСМ і ўсіх прафарганізацый поўнае ліквідаваньне няпісьменнасьці па іх лініі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ліквідаваньне няпісьменнасьці і малапісьменнасьці сярод нацменшасьцяй, а таксама сярод дэлегатак і актыўна працуючых жанчын у Горсаветах, с/сав., каапэрацыі і інш. арганізацыях.

АК лічыць, што работа па ліквідацыі няпісьменнасьці павінна быць увязана з усімі формамі масавай палітыка-асьветнай работы, правядзеньнем гутарак на грамадзка - палітычныя тэмы, пастаноўка лекцыйнай, экскурсійнай, клюбнай работы, скарыстоўваньне газэты і кнігі для малапісьменных, уцягненьне няпісьменных і малапісьменных у грамадзкую работу. Побач з гэтым павінны быць лепш прыстасаваны формы і мэтады работы выходзячы з умоў работы і быту асобных катэгорый няпісьменных гораду і вёскі.

К рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці павінны быць прыцягнуты члены партыі, КСМ, пролетарскае студэнцтва ВНУ і тэхнікумаў, вучні старэйшых груп 7 годак, групы савецкай інтэлігэнцыі гораду і вёскі.

Для больш пасьпяховага наладжаньня і правядзеньня работы АК прызнаў неабходным арганізаваць курсы па падрыхтоўцы ліквідатараў у кожным раёне.

## Мерапрыемствы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

*(Віцебская акруга).*

Параўнальна з 1927-28 г. у 1928-29 г., як гэта адзначыў АК, у працы па ліквідацыі няпісьменнасьці маюцца ў Віцебскай акрузе значныя дасягненьні (павялічэньне сеткі лікпунктаў, ахоп няпісьменных павялічыўся больш чымся ў два разы, павялічылася грамадзкая дзейнасьць у гэтым напрамку, добрыя вынікі дало індывідуальнае і групавое навучаньне няпісьменных).

Але гэтыя вынікі маглі-б быць яшчэ большымі, калі-б у гэтай справе ня мелася-б шэрагу недахопаў, якія выяўлены АК (плян забясьпечан быў па мясцоваму каштарысу толькі на 54%, слабы, а часам зусім фармальны ўдзел у гэтай справе савецкіх прафсаюзных і коопэрацыйных організацый, распыленасьць сіл і сродкаў і шэраг інш.).

На 1929-30 г. па Віцебшчыне вызначана па пляну навучыць 30000 няпісьменных і на працягу 1929-30 г. поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць сярод рабочых, а ў г. Віцебску сярод усяго працоўнага насельніцтва.

У мэтах пасьпяховага правядзеньня пляну ліквідацыі няпісьменнасьці, Віцебскі АК прызнаў неабходным праводзіць усю работу на падставе адзінага пляну пры поўным аб'яднаньні матэрыяльных сродкаў і для правядзеньня ўсёй работы організаваць пры палітасьветы штаб па зьнішчэньню няпісьменнасьці, у які ўвойдуць працаўнікі з зацікаўленых організацый.

АК прызнаў неабходным уцягнуць у гэту працу членаў партыі, КСМ, студэнцтва, настаўніцтва, вучняў школ сямёхгодак і г. д. З гэтай мэтай АК паставіў перад АК КСМ, пралетстудам і сябрамі працасьветы пытаньне аб вылучэньні ў распараджэньне штабу ня менш як 100 асоб.

З мэтаю ажыцьцяўленьня пляну АК паказаў, што пры с-с., профсаюзных, коопэрацыйных, камсамольскіх організацыях неабходна організаваць групы садзейнічаньня зьнішчэньню няпісьменнасьці.

Работа па ліквідацыі няпісьменнасьці, сказаў АК, павінна быць дапасавана да вытворча-бытавых умоў рабочых, батракоў і беднякоў, шляхам прыстасаваньня да зьменнасьці, да больш вольнага часу, бліжэй да мейсца жыхарства. У клюбах організаваць дзіцячыя пакоі на час працы лікпунктаў.

Каб увязаць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці са ўсімі формамі масавай палітыка-асьветнай работы, вызначана організаваць на лікпунктах гутаркі па палітычных пытаньнях, праводзіць гутаркі, лекцыі, організаваць наведваньне кіно, тэатру, праводзіць з імі чытку газэт, кніг і інш.

З іншых мерапрыёмстваў вызначана забясьпечыць лікпункты сьветам па фактычнай сабекоштоўнасьці і за фактычны час працы лікпунктаў, устанавіць ільготны праезд у трамваі для няпісьменных і ліквідатараў.

З 15 жніўня вызначана правесьці культпаход (месячнік) у мэтах прыцягненьня ўвагі савецкай грамадзкасьці да пытаньняў зьнішчэньня няпісьменнасьці.

Вызначана таксама правесьці вучот няпісьменных па ўсёй акрузе і гораду Віцебску.

У мэтах барацьбы з рэцыдывамі няпісьменнасьці, прызнана неабходным, каб усе школы сямёхгодкі, профшколы організавалі школы для малапісьменных, якія скончылі лікпункты ў мінулым годзе.

Нарэшце трэба адзначыць, што чамусь-ці АК упусьціў з віду скарыстаць мэтад соцыялістычнага спаборніцтва з мэтаю разгортваньня работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Рэдактар: *Рэдкалегія.*




Друкарня БДВ Заказ № 341. У ліку 2200 экз. Галоўлітбел № 207.